● выдаецца са жніўня1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў

27 студзеня 1996 г. субота, №№ 25-26 (22828-22829)




# ЗВЯЗДА

## Кіраўнік дзяржавы выклаў свае погляды на супрацоўніцтва з ФРГ

**Учора адбылася сустрэча Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі дзелавых колаў Германіі, якія прыбылі на Беларусь па яго запрашэнню.**

Дакладней, гэта хутчэй быў дыялог двух бакоў, зацікаўленых у развіцці партнёрскіх адносінаў. І працягваўся гэты дыялог без перапынку амаль чатыры гадзіны. Таму, зразумела, поўна расказаць пра размову Прэзідэнта з нямецкімі бізнесменамі адразу, па «гарачых» слядах па тэхнічных прычынах не ўяўляецца магчымым. Больш падрабязна аб гэтай падзеі, увогуле перспектывах і праблемах эканамічнага супрацоўніцтва нашай краіны з Германіяй мы паведамім у наступным нумары. А зараз спынімся на вузлавых момантах прамовы, разважанняў Прэзідэнта на тэму «Беларусь — ФРГ».

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ІНКАСАТАРЫ ЗАГІНУЛІ АД... СНЕГАПАДУ

**Практычна на роўнай дарозе, без пісталетных выстралаў і нажоў загінулі тры інкасатары з Буда-Кашалёўскага раёна.**

Як мяркуецца, прычынай іх гібелі стаў ... снегапад. 25 студзеня пасля збору выручкі ў вясковых магазінах, рухаючыся на аўтамабілі «Масквіч», яны паспрабавалі абагнаць машыну, аднак на звужанай снежнымі адваламі трасе не размінуліся з сустрэчным «КамАЗам» і ўрэзаліся ў яго. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА, кампетэнтныя органы не лічаць гэту аварыю запланаваным нападам.

Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.





*Лес прыціхнуў, — ні шуму, ні сокату...*

Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## РАТАЦЫЯ КАДРАЎ — ПРЫМЕТА КРЫЗІСУ?

**На мінулым тыдні адбылося некалькі значных кадравых перамяшчэнняў.**

Адстаўкай, якой даўно чакалі, стала звальненне з пасады міністра прамысловасці Уладзіміра Куранкова. Прэзідэнт даўно быў незадаволены работай міністэрства, неаднаразова даваў зразумець гэта сп. Куранкову. А пасля нарады, на якой кропка, нарэшце, была пастаўлена, прызнаўся, што чакаў, калі Куранкоў сам усё зразумее і добраахвотна пойдзе сам. Аднак былы міністр цярпліва чакаў і пайшоў толькі тады, калі яму паказалі на дзверы.

Уладзімір Куранкоў — першы, хто сур'ёзна разлічыўся за катастрафічны стан эканомікі і за спад у прамысловасці, які меў месца летась. Праўда, міністр прамысловасці — зусім не ключавая фігура ў вызначэнні эканамічнага курсу і ў выпрацоўцы стратэгіі рэформаў. Між тым, выглядае, што менавіта марудлівасць і нерашучасць у правядзенні эканамічных пераўтварэнняў сталі галоўнай прычынай таго, што краіна ўжо каторы год топчацца на месцы, усё глыбей пагружаючыся ў багну крызісу.

На нарадзе па выніках года Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз паставіў перад кіраўнікамі прамысловасці жорсткую задачу — забяспечыць сёлета 2-працэнтны рост вытворчасці. Хто не справіцца — развітаецца з партфелем.

Верагодна, знайсці Уладзіміру Куранкову замену будзе няпроста. Любы з кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў разумее, што галіна, за якую адказваў Куранкоў, яшчэ доўга будзе знаходзіцца ў такім стане, за які кіраўніцкае крэсла можна згубіць у любы момант.

Адстаўкай, якой мала хто чакаў, стаў добраахвотны зыход старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандра Абрамовіча. З імем гэтага вядомага юрыста, як і з імем старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні, многія звязвалі надзеі на будаўніцтва прававой дзяржавы, усталяванне паважлівых адносінаў кіраўнікоў высокага рангу да Канстытуцыі.

Аляксандр Абрамовіч зойме пасаду аднаго з намеснікаў кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. Улічваючы няпростыя адносіны лідэра дзяржавы з Канстытуцыйным судом і зусім магчымыя разыходжанні з Вярхоўным Саветам, участак работы ў сп. Абрамовіча будзе напружаны. Асабліва калі мець на ўвазе, што ў недалёкай будучыні зусім рэальнай перспектывай можа стаць магчымы рэферэндум, на які Прэзідэнт вынесе папраўкі да Канстытуцыі.

Старая пасада сама па сабе вымагала таго, каб Аляксандр Абрамовіч служыў выключна Закону. І з гэтай задачай ён няблага спраўляўся. У новай ролі задачы яму будуць дыктаваць зусім іншыя інстанцыі. І гэта, відавочна, стане для правазнаўцы няпростым выпрабаваннем.

Нарэшце, на мінулым тыдні стала вядома, што былы кіраўнік Ашчаднага банка Уладзімір Хілько звольнены з пасады «па артыкулу» — «за аднаразовае грубае парушэнне працоўных абавязкаў». Сам сп. Хілько прасіў, каб яго з мірам адпусцілі на пенсію па інваліднасці. Аднак прэм'ер Міхаіл Чыгір пакінуў гэту заяву былога банкіра без увагі і настаяў на жорсткай фармулёўцы. Адстаўка Уладзіміра Хілько паставіла кропку ў доўгай гісторыі аўтаномнага існавання Ашчаднага банка. Яна ж стала пачаткам узлёту кар'еры старшыні праўлення аб'яднанага ашчаднага «Беларусбанка» Тамары Віннікавай, якой многія прадказваюць у блізкай будучыні пасаду кіраўніка Нацыянальнага банка Беларусі.

Валянцін ЖДАНКО.

# ІМЁНЫ ТЫДНЯ

## «Поўня ў небе і крыж на зямлі»



Так назваў сваю аповесць пра вялікага беларускага мастака Вітольда Каэтанавіча Бяльніцкага-Бірулю празаік Віктар Карамазаў. Лепей і не скажаш, не вымерыш лепей выключнасць мастацкага генія нашага суайчынніка. Бяльніцкі-Біруля не выпадкова трапляе ў намінацыю «Імёны тыдня», хаця ўжо даўно натхнёная душа мастака асвоївае іншыя, незямныя прасторы. Прынята рашэнне аб правядзенні Міжнароднага мастацкага пленэра імя В. К. Бяльніцкага-Бірулі. Пройдзе мерапрыемства на Магілёўшчыне, на радзіме мастака. Заслуханы дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, галоўны спецыяліст па выяўленчаму мастацтву Міністэрства культуры і друку Уладзімір Уродніч так каменціруе ідэю правядзення пленэра.

— На сучасным этапе развіцця выяўленчага мастацтва згублены раней існаваўшыя мастацкія крытэрыі. Сёння мастакі працуюць «навобмацак». І гэта тады, калі ў самім нацыянальным жывапісе ёсць на што абапірацца. Возьміце тую ж Віцебскую мастацкую школу. А Бяльніцкі-Біруля — увогуле тытан, глыба, адзін з найярчэйшых прадстаўнікоў жывапісу. Наладжваючы пленэр, мы жадаем абудзіць увагу грамадскасці да вялікага, геніяльнага мастака, яго спадчыны і яго творчых метадаў. Яшчэ адна асаблівасць: на фестывалі збяруцца мастакі — прадстаўнікі славянскіх дзяржаў. Прыедуць творцы з Польшчы, Балгарыі, Чэхіі, Славакіі, Славеніі, Сербіі, Расіі і Украіны.

## Замяталін, Шаршавіцкі... Хто наступны?

Журналістам уласціва памыляцца. Вось і на гэтым тыдні, магчыма, былі дапушчаны дзве памылкі ў адносінах да адной і той жа праблемы. Першая — думка наконт таго, што пасля вызвалення ад пасады начальніка ГУГПІ Уладзімір Замяталін пакіне без увагі сродкі масавай інфармацыі. Нават сам Уладзімір Пятровіч не згодзен з падобным вызначэннем яго дзяржаўнай будучыні. Спадар Замяталін, стаўшы «чыстым» намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, і надалей будзе займацца пытаннямі ідэалогіі, а значыць, не пакіне без увагі ні пытанні падручнікаў, ні сродкі масавай інфармацыі. Так што дарэмна спадзяваліся, спадары журналісты.

Спадзяванне другое — і небеззнадзейнае. Міхаіл Шаршавіцкі прызначаны кіраўніком прэс-службы Прэзідэнта з аднначасовым вызваленнем ад абавязкаў дырэктара Нацыянальнага прэс-цэнтра. (Заўважце: прызначаны зусім не начальнікам ГУГПІ, як паспяшаліся паведаміць некаторыя сродкі масавай інфармацыі.) Магчыма, з прыходам Шаршавіцкага, ды і фактычна фарміраваннем новай інфармацыйнай структуры ў саставе Адміністрацыі Прэзідэнта, нешта да лепшага зменіцца ў стасунках СМІ з прэзідэнцкай камандай. У тым сэнсе, што атрымліваць дакладную інфармацыю ад органаў улады журналістам стане лягчэй.

А непасрэдна пасада, якую займаў Уладзімір Замяталін, пакуль застаецца вакантнай...

## Застаючыся грамадзянінам Савецкага Саюза, можна таксама бараніць беларускую мову



Член фракцыі камуністаў у парламенце Валерый Шчукін выступіў з запытам да прэм'ер-міністра М. Чыгіра адносна цяжкага, складанага становішча беларускай мовы.

Па-рознаму можна глядзець на гэты факт. Сёй-той паспрабуе іранізаваць: маўляў, і камуністы нацягваюць на сябе нацыянальную кашулю. Але не трэба забываць, што ў свой час Закон аб мовах распрацоўваўся ў кабінетах ЦК КПБ.

Як, дарэчы, нельга не звярнуць увагу на тую акалічнасць, што заступіўся за беларускую мову чалавек, доўгія гады адараваны ад беларускай старонкі. Валерый Шчукін — былы афіцэр Ваенна-Марскога флоту. Пра ўласнае ж стаўленне да роднай мовы сваёй маці ў адным з газетных інтэрв'ю ў адказ на пытанне: «Калі ў парламенце будзе галасаванне якое-небудзь рашэнне, скіраванае на ўмацаванне пазіцый беларускай мовы, ці выкажацеся вы «за»?» заявіў наступнае: «Той, хто хоча вучыцца па-беларуску, павінен мець такую магчымасць, нягледзячы ні на якія фінансавыя выдаткі».

Застаючыся на пазіцыях вяртання ў прастору Савецкага Саюза (а Валерый Шчукін не забывае нагадаць, што ён з'яўляецца грамадзянінам СССР), ён не маўчыць, калі справа датычыць зберажэння і захавання роднай мовы народа.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 31

# АБ УДАСКАНАЛЕННІ ДЗЯРЖАЎНАЙ ГРАШОВА-КРЭДЫТНАЙ ПАЛІТЫКІ

У мэтах забеспячэння эканамічнай стабільнасці і ўдасканалення знешнеэканамічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Стварыць для каардынацыі дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі Нацыянальны савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у складзе старшыні праўлення Нацыянальнага банка (старшыня Савета), старшыні праўлення акцыянернага Ашчаднага банка «Беларусбанк», прадстаўніка Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, начальніка службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, міністра эканомікі, міністра фінансаў, двух прадстаўнікоў Асацыяцыі камерцыйных банкаў, двух прадстаўнікоў Канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, прадстаўніка Беларускага савета калгасаў, двух вучоных-эканамістаў у галіне грашова-крэдытнай палітыкі.

2. Зацвердзіць на перыяд да 1 ліпеня 1996 года ўзгоднены з Нацыянальным банкам абменны курс беларускага рубля ў межах 11.300—13.100 беларускіх рублёў за долар ЗША.

Нацыянальнаму банку забяспечыць захаванне абменнага курса адносна свабодна канверсоўных валют і расійскіх рублёў.

3. Устанавіць, што:

3.1. Беларускія юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы*, абавязаны прадаваць на Міжбанкаўскай валютнай біржы сродкі ў свабодна канверсуемай валюце і расійскіх рублях на працягу 60 дзён з дня іх паступлення на адпаведныя рахункі ў беларускіх або замежных банках, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных гэтым Указам;

3.2. Не падлягае абавязковаму продажу замежная валюта:

якая паступіла прадпрыемствам з замежнымі інвестыцыямі, у статутным фондзе якіх доля замежнага ўдзельніка перавышае 30 працэнтаў, ад экспарту прадукцыі ўласнай вытворчасці, пры захаванні ўмоў, прадугледжаных заканадаўствам;

набытая ва ўстаноўленым парадку на ўнутраным валютным рынку Рэспублікі Беларусь;

якая паступіла, у тым ліку з-за мяжы, у выглядзе прыцягнутых фінансавых сродкаў (укладаў, дэпазітаў), пазык (крэдытаў);

якая расходуецца на транспарціроўку, страхаванне, экспедзіраванне экспартуемых за такую валюту тавараў, а таксама на выплату падаткаў і збораў па гэтых таварах;

атрыманая энерга- і газазабяспечваючымі арганізацыямі ў лік плацяжоў за газ, электрычную і цеплавую энергію, у памерах сродкаў у замежнай валюце, выкарыстаных гэтымі арганізацыямі на набыццё энергарэсурсаў;

якая накіроўваецца на працягу 60 дзён з дня яе паступлення на набыццё сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых вырабаў і энерганосьбітаў, што выкарыстоўваюцца для ўласнай вытворчасці;

атрыманая ў выніку пераразмеркавання валютнай выручкі паміж рэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь: вытворцамі экспартуемай прадукцыі і асобамі, якія пастаўляюць ім камплектуючыя вырабы для гэтай прадукцыі, а роўна паміж асобамі, якія выконваюць работы (аказваюць паслугі) на экспарт, і асобамі, якія выконваюць для іх работы (аказваюць ім паслугі, пастаўляюць ім прадукцыю) для выканання работ (аказання паслуг) на экспарт;

пералічаная на рахункі Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны для выплаты замежным грамадзянам, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пенсій у замежнай валюце, а таксама якая паступіла на рахунак Беларускага рэспубліканскага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне»;

у іншых выпадках, прадугледжаных Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

3.3. Юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі абавязаны выплачваць у парадку, вызначаным Міністэрствам фінансаў сумесна з Нацыянальным банкам, збор у памеры 10 працэнтаў ад сумы валютных сродкаў, набытых на Міжбанкаўскай валютнай біржы, за выключэннем:

куплі валюты ці абмену аднаго віду свабодна канверсоўнай валюты (расійскіх рублёў) на іншы від свабодна канверсоўнай валюты (расійскіх рублёў) у мэтах набыцця нафты, газу, іншых энерганосьбітаў, электрычнай энергіі, збожжа, кармавых дабавак, прэміксаў, пагашэння атрыманых для гэтага крэдытаў і выплаты працэнтаў за карыстанне імі;

ажыццяўлення аперацый Нацыянальным банкам і Міністэрствам фінансаў;

іншых выпадкаў, прадугледжаных Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Пры правядзенні юрыдычнымі асобамі і прадпрымальнікамі тавараабменных (бартэрных) аперацый імі выплачваецца збор у замежнай валюце або ў беларускіх рублях па курсу Нацыянальнага банка ў памеры 10 працэнтаў ад дагаворнага (кантрактнага) кошту ўвозімых тавараў, акрамя выпадкаў набыцця сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых вырабаў, тэхналагічнага абсталявання і энерганосьбітаў для ўласнай вытворчасці.

Збор у памеры 10 працэнтаў ад сумы валютных сродкаў, набытых на Міжбанкаўскай валютнай біржы, або ад дагаворнага (кантрактнага) кошту ўвозімых тавараў пры правядзенні тавараабменных (бартэрных) аперацый залічваецца ў дзяржаўны фонд падтрымкі экспарцёраў, палажэнне аб якім зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

3.4. Накладаецца штраф на юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў, вінаватых:

у несвоечасовым абавязковым продажы замежнай валюты, — у памеры 1 працэнта ад непрададзенай валюты за кожны дзень пратэрміноўкі, але не звыш сумы непрададзеных валютных сродкаў;

у неабгрунтаваным заніжэнні сумы валютных сродкаў, якія падлягаюць абавязковаму продажу, — у памеры, на які яны неабгрунтавана заніжаны;

у нямэтавым выкарыстанні замежнай валюты, набытай на Міжбанкаўскай валютнай біржы без выплаты 10-працэнтнага збору (абзацы другі—чацвёрты падпункта 3.3 гэтага Указа), — у памеры 100 працэнтаў сумы ў адпаведнасці з абзацам дзевятым часткі першай пункта 7 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лютага 1995 г. № 52 «Аб устанаўленні парадку рэгулявання экспартна-імпартных і валютных аперацый і павышэнні адказнасці за парушэнне заканадаўства ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 5, арт. 98).

Штрафныя санкцыі, устаноўленыя гэтым падпунктам, накладаюцца згодна з рашэннем Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзяржаўных падатковых інспекцый або галоўных упраўленняў Нацыянальнага банка па абласцях і г. Мінску. Такое рашэнне можа быць прынята не пазней двух месяцаў з дня выяўлення правапарушэння і ў пяцідзённы тэрмін павінна быць даведзена да адпаведнай юрыдычнай асобы або прадпрымальніка.

Рашэнне аб накладанні штрафу можа быць абскарджана ў судовым парадку ў 14-дзённы тэрмін з дня яго давядзення. Абскарджанне рашэння прыпыняе яго выкананне.

Штраф падлягае выплаце пасля заканчэння тэрміну, устаноўленага для абскарджання рашэння аб яго накладанні, або пасля вынясення судом рашэння аб пакіданні скаргі без задавальнення. Своечасова не выплачаны штраф спаганяецца ў безакцэптным парадку органам, які прыняў рашэнне аб яго накладанні.

Штраф выплачваецца (спаганяецца) у рэспубліканскі бюджэт у адпаведнай замежнай валюце, а пры яе адсутнасці — у беларускіх рублях па курсу Нацыянальнага банка на дзень выплаты (спагнання).

Выплата штрафу не вызваляе вінаватую асобу ад абавязковага продажу замежнай валюты або ўнясення 10-працэнтнага збору;

3.5. Зборы, якія спаганяюцца ў замежнай валюце консульскімі ўстановамі Рэспублікі Беларусь за мяжой, перадаюцца ўказаным установам у лік іх фінансавання і ў яго межах.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

сумесна з Нацыянальным банкам прыняць комплекс мераў па далейшаму развіццю рынку каштоўных папер;

прадставіць ва ўстаноўленым парадку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для зацвярджэння персанальны састаў Нацыянальнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, праекты палажэнняў аб гэтым Савеце і аб дзяржаўным фондзе падтрымкі экспарцёраў, а таксама прапановы аб стымуляванні экспарту;

прывесці ў адпаведнасць з гэтым Указам рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь і падведамных яму органаў.

5. Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі, падатковым і іншым дзяржаўным кантрольным органам узмацніць кантроль за абарачэннем наяўнай замежнай валюты і забяспечваць няўхільнае прымяненне строгіх мераў за парушэнне заканадаўства ў гэтай галіне.

6. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*25 студзеня 1996 г., г. Мінск.*

* *Далей — юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі.*

***ДА ВІЗІТУ***

## ПРЫМАКОЎ ЯЎГЕН МАКСІМАВІЧ

### МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ



Нарадзіўся 29 кастрычніка 1929 года ў Кіеве. У 1953 годзе скончыў Маскоўскі інстытут усходазнаўства, у 1956 — аспірантуру Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Доктар эканамічных навук. Акадэмік Акадэміі навук СССР (з 1991-га — Расійскай акадэміі навук).

З 1956 года — карэспандэнт, адказны рэдактар, намеснік галоўнага рэдактара Галоўнай рэдакцыі Дзяржкамітэта па радыёвяшчанню і тэлебачанню пры Савеце Міністраў СССР. З 1962 па 1970 год працаваў аглядальнікам, намеснікам рэдактара, уласным карэспандэнтам газеты «Правда» ў арабскіх краінах. Потым да 1977 года — намеснікам дырэктара Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносінаў АН СССР.

У 1977 годзе назначаны дырэктарам Інстытута ўсходазнаўства АН СССР, а ў 1989-м — дырэктарам Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносінаў АН СССР. З 1988 года — акадэмік-сакратар, член Прэзідыума АН СССР, з 1989-га па студзень 1992-га — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР адзінаццатага склікання, народны дэпутат СССР.

У 1989-1990 гады быў старшынёй Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР, членам Савета бяспекі СССР. З 1990 па 1991 год — член Прэзідэнцкага савета СССР. Член КПСС з 1959 па 1991 год, кандыдат у члены ЦК КПСС (1986—1989 гады), член ЦК КПСС (1989-1990 гады), кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС (з верасня 1989 па чэрвень 1990).

З верасня па лістапад 1991 года — першы намеснік старшыні КДБ СССР, начальнік 1-га Галоўнага ўпраўлення. З лістапада па снежань 1991 года — дырэктар Цэнтральнай службы разведкі СССР. Са снежня 1991 года — дырэктар Службы знешняй разведкі Расіі. З 10 студзеня 1996 года выконвае абавязкі міністра замежных спраў Расійскай Федэрацыі.

**БЕЛТА.**

***ДАСЛОЎНА***



## Мечыслаў ГІРУЦЬ:

# «Мы ў парламенце не для таго, каб лабіраваць аграрныя пытанні»

***«Звязда» працягвае знаёміць сваіх чытачоў з дэпутацкімі аб'яднаннямі, якія створаны ў Вярхоўным Савеце, а таксама з іх палітычнымі поглядамі і эканамічнымі пазіцыямі. Мяркуем, цікавай вам падасца і сённяшняя гутарка з кіраўніком фракцыі аграрнікаў, членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Мечыславам ГІРУЦЕМ.***

**— Сёння можна канстатаваць, што дзяльба партфеляў у Вярхоўным Савеце амаль закончылася. Якімі для вашай фракцыі сталі яе вынікі?**

— Прадстаўнікі нашай фракцыі ўзначалілі две пастаянныя камісіі: па аграрных пытаннях і па сацыяльнай палітыцы і працы. Акрамя таго, 5 чалавек сталі намеснікамі старшынь розных камісій, 2 — сакратарамі і яшчэ адзін выбраны кіраўніком падкамісіі.

**— Ваша дзейнасць у Вярхоўным Савеце будзе абумоўлена толькі праграмай Аграрнай партыі?**

— Вядома, кіравацца ў сваёй парламенцкай дзейнасці фракцыя будзе ў першую чаргу праграмнымі мэтамі партыі. Адзінае, што формы работы дэпутацкага аб'яднання і палітычнай арганізацыі будуць адрозніваццa. Стратэгія будзе аднолькавай, а вось тактыку будуць вызначаць адносіны з нашымі калегамі па дэпутацкаму корпусу.

**— Прыярытэтнымі для вашай фракцыі будуць аграрныя пытанні, або ёсць іншыя меркаванні?**

— Гэта памылковае перакананне. Мы прыйшлі ў Вярхоўны Савет не для таго, каб лабіраваць пытанні аграрнай сферы, уплываць сваімі рашэннямі толькі на дабрабыт у сельскай гаспадарцы. Вядома, гэтыя пытанні будуць прыярытэтнымі ў нашай дзейнасці хоць бы таму, што ад іх вырашэння аб'ектыўна залежыць стан спраў у астатніх галінах народнай гаспадаркі. Таму акрамя праблем сельскагаспадарчай вытворчасці мы будзем вырашаць і пытанні культуры, бытавога абслугоўвання, гандлю, медыцыны — усяго таго, што адбываецца на мікраўзроўні на вёсцы. Але адначасова фракцыя будзе займацца ўсімі праблемамі знешняй і ўнутранай палітыкі нашай дзяржавы, бо без нашай фракцыі і іх вырашэння не адбудзецца. Трэба, каб прымаемыя намі законы зыходзілі са здаровага сэнсу і маглі рэальна ўплываць на аздараўленне эканомікі, на павелічэнне вытворчасці прадукцыі, што, урэшце, станоўча ўплывала б на ўзровень жыцця нашых людзей.

**— Існуе меркаванне, што аграрная фракцыя, якая пераважна складаецца са старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў, не знойдзе новых падыходаў да рэалізацыі аграрнай рэформы, паколькі гэта людзі старой загартоўкі.**

— Я лічу, што аўтары такіх заяў таксама памыляюцца. Бо ў нашай фракцыі сабраліся не толькі кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, але і старшыні райкомаў і выканкомаў, урачы, настаўнікі, кадравыя партыйныя работнікі. Так што фракцыя прадстаўлена, можна сказаць, усімі галінамі народнай гаспадаркі. І тое, што мы не зможам узняць і зразумець надзённыя праблемы, якія турбуюць вёску, не адпавядае рэчаіснасці. Калі гаварыць пра эканамічную рэформу, то галоўнае пытанне ў тым, што поспех ці няўдача ўсіх пачынанняў залежыць ад працы чалавека. Спадзявацца на тое, што з эканамічнага крызісу нам дапаможа выйсці капітал з Усходу ці з Захаду, бессэнсоўна. Яшчэ былая КПСС добра разумела, што трэба паляпшаць адносіны чалавека да працы, і з гэтай мэтай з'явіліся стаханаўскі рух і сацыялістычныя спаборніцтвы. Тым не менш, ідэалагічна паўплываць на гэтую праблему не ўдалося — на заводах і фабрыках па сутнасці працавалі падзёншчыкі, а ў сельскай гаспадарцы — батракі, таму выйсце тут бачыцца толькі адно: зрабіць чалавека гаспадаром.

**— Згодзен. Але вы не адкрылі нічога новага. Аналагічныя думкі выказваюцца даўно, і ўсе разумеюць неабходнасць такіх змен. Толькі вось бяда, што механізмаў для гэтага так і не выпрацавана. Што ў гэтым сэнсе можа прапанаваць фракцыя аграрнікаў?**

— Калі ласка. Зараз у нас ідзе чэкавая прыватызацыя. Раней чалавек, які прапрацаваў усё жыццё, атрымаўшы чэкі «Маёмасць» і потым прадаўшы іх, мог атрымаць каля 250 тысяч рублёў. І мы хочам, каб на гэтыя мізэрныя грошы чалавек пачаў сваю справу?! Я лічу, што гэта натуральны здзек над працоўным людам. А павысіўшы ў лістападзе кошт аднаго чэка ў шаснаццаць разоў, мы ўзбагацілі толькі інвестыцыйныя фонды, а не простых людзей, паколькі большасць іх ўжо прадала свае чэкі. Таму я лічу, што мы павінны прыпыніць такую прыватызацыю і правесці раздзяржаўленне ўласнасці па працоўных калектывах. Яны павінны атрымаць усе асноўныя фонды, але не задарма, а шляхам выкупу. Нашыя людзі не такія багатыя, скажаце вы. Таму для прадпрыемстваў, у тым ліку і сельскагаспадарчых, неабходна стварыць умовы для дзейнасці з атрыманнем прыбытку, каб потым, выкарыстоўваючы частку гэтага прыбытку, рабочыя маглі б выкупіць свае прадпрыемства. Магчыма, на гэта запатрабуецца 10—15 гадоў, але кожны год нейкая частка прыбытку павінна ісці на выкуп прадпрыемства. Гэта ж датычыцца і рэформы ў сельскай гаспадарцы. Праўда, пакуль не трэба мяняць уласніка самой зямлі. Гэта можа пачакаць. А вось што датычыцца асноўных фондаў і прадукцыі, якая выпускаецца на вёсцы, то тут трэба, каб вяскоўцы самі маглі вызначаць, што вырабляць, колькі і па якіх цэнах прадаваць. Таму Вярхоўны Савет і будзе імкнуцца знайсці падыходы да вырашэння гэтай праблемы.

**— Як вядома, пасля выбрання Сямёна Шарэцкага Старшынёй Вярхоўнага Савета ён пакінуў фракцыю, але ўсё ж застаўся кіраўніком Аграрнай партыі. Значыць, нейкія пазапарламенцкія адносіны паміж фракцыяй і спікерам захаваюцца?**

— Зараз для Сямёна Георгіевіча ўсе фракцыі павінны быць роўнымі. Гэта і стала асноўнай прычынай, па якой ён пакінуў нашы рады. Але, вядома, што, застаючыся кіраўніком Аграрнай партыі, ён павінен будзе прытрымлівацца палітыкі і праграмы, якую будзе праводзіць партыя.

**— Кідаецца ў вочы, што, нават займаючы пасаду кіраўніка фракцыі аграрнікаў, вы рэдка выступаеце на пасяджэннях парламента. Чаму?**

— Калі прааналізаваць выступленні дэпутатаў, то можна сказаць, што пераважная большасць — гэта размовы аб тым, што даўно абмеркавана на фракцыях. Таму я лічу немэтазгодным выказвацца адносна таго, што і так зразумела. Я не імкнуся да таго, каб «засвяціцца», паказаць сябе. Калі ж узнікне сітуацыя, дзе маё выступленне як лідэра фракцыі будзе неабходным, то саромецца не буду.

**— Дарэчы, даўно хацеў спытаць, чаму вы ігнаруеце сучасны дэпутацкі значок, а носіце значок народнага дэпутата БССР. Гэта жыццёвая пазіцыя, палітычныя сімпатыі ці нешта іншае?**

— І ні тое, і ні другое. Проста мне не падабаецца той «шырспажыўны» значок, які нам выдалі зараз. Ён выраблены няўдала з пункту гледжання эстэтыкі. Калісьці значкі з алюмінію штампаваліся для піянераў і камсамольцаў, і то з большым густам. Таму калі з'явіцца сімвал дэпутацтва новага ўзору, то я буду насіць яго.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ ВЫКЛАЎ СВАЕ ПОГЛЯДЫ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА З ФРГ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

З выбраннем Вярхоўнага Савета з'явіліся добрыя магчымасці для ўдасканалення нарматыўна-прававой базы, накіраванай, у тым ліку, і на стварэнне заканадаўчых актаў, якія б спрыялі паляпшэнню інвестыцыйнага клімату ў Беларусі.

Аляксандр Лукашэнка назваў пяць прычын, якія, на яго думку, могуць і павінны зрабіць эфектыўным супрацоўніцтва дзвюх краін.

Першая — выгаднае геаграфічнае становішча краіны на кантыненце. Беларусь — своеасаблівае скрыжаванне традыцыйных шляхоў з Захаду на Усход і наадварот. Ужо па прычыне гэтага наша краіна можа стаць стартавай пляцоўкай для нямецкіх і іншых заходніх фірмаў для асваення надзвычай перспектыўнага ўсходняга рынку.

Другая — на Беларусі самая развітая сярод іншых былых савецкіх рэспублік інфраструктура.

Трэцяя — у Беларусі кваліфікаваная і адносна танная працоўная сіла, якую адрознівае дысцыплінаванасць і арганізаванасць. Сюды трэба аднесці такія станоўчыя рысы беларускага народа, як працавітасць, талерантнасць, міралюбнасць, успрымальнасць да прыватнай ініцыятывы.

Чацвёртая — у Беларусі стабільная палітычная і сацыяльная сітуацыя, дзе няма нацыянальных канфліктаў, вострых узрушэнняў.

Пятая — гарантыі вышэйшага кіраўніцтва наконт таго, што правы і інтарэсы замежных інвестараў будуць няўхільна захоўвацца. Максімальную падтрымку ўладаў атрымаюць усе прадпрымальнікі ў наладжванні ўзаемавыгаднага бізнесу ў Беларусі.

Але Прэзідэнт усё ж зыходзіць з таго, што найлепшая гарантыя бяспекі замежных інвестыцый — гэта незваротнасць эканамічных пераўтварэнняў, рыначных рэформаў у Беларусі.

Наконт крытыкі і абвінавачанняў у марудных тэмпах іх правядзення Аляксандр Лукашэнка заявіў, што рэформы будуць праводзіцца разумна і паслядоўна, а не ў выглядзе стыхійных кампаній. І вельмі важна не дапусціць таго, каб яны не пацягнулі за сабой недапушчальна высокую іх сацыяльную цану.

Беларусь таксама часта абвінавачваюць у штучным тармажэнні працэсаў прыватызацыі. З гэтай нагоды Прэзідэнт заявіў, што мы ўлічваем канкрэтную сітуацыю ў рэспубліцы і не дапусцім абвальнай прыватызацыі. Ён праінфармаваў прысутных аб тым, што ў канцы мінулага года прынята праграма раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў на гэты год. Яе мэта — павысіць эфектыўнасць вытворчасці за кошт выкарыстання сучасных метадаў кіравання прадпрыемствамі. Намечана буйныя і сярэднія прадпрыемствы рэарганізаваць у адкрытыя акцыянерныя таварыствы.

Зямельная рэформа. Яе сутнасць у пашырэнні права прыватнай уласнасці на зямлю і распрацоўцы эфектыўнага механізма рэалізацыі гэтага права.

Падатковая сістэма. Яна ў Беларусі пастаянна ўдасканальваецца, прыстасоўваецца да рыначнай эканомікі з мэтай стварэння добрых умоў для прыцягнення замежных капіталаў. Ёсць ільготы для СП і прадпрыемстваў са стопрацэнтным замежным капіталам, якія не заўсёды маюць беларускія вытворцы. Напрыклад, калі ўклад замежнага інвестара ў статутны фонд СП складае больш за 30 працэнтаў, то ён вызваляецца ад падатку на прыбытак на працягу трох гадоў з моманту абвяшчэння ім прыбытку.

Са стварэннем у Беларусі свабодных эканамічных зон (ужо падрыхтаваны адпаведны праект указа Прэзідэнта, які цяпер разглядаецца ў Кабінеце Міністраў і ў бліжэйшы час будзе падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам) замежныя прадпрымальнікі атрымаюць магчымасць укладваць туды свой капітал з выгадай для сябе.

Аднак Прэзідэнт адзначыў, што не трэба яго запрашэнне нямецкім бізнесменам прыехаць сюды ўспрымаць як нейкую слабасць, як просьбу выратаваць беларускую эканоміку. Такой праблемы ў Беларусі няма.

Разам з тым ён не ўтойваў і таго, што нам ёсць чаму павучыцца ў немцаў, іх метадам і спосабам гаспадарання, уменню весці справы, наладжваць дысцыпліну і парадак.

Выказваючыся наконт палітычных працэсаў у Еўропе, Прэзідэнт заявіў, што мы катэгарычныя праціўнікі пашырэння блока НАТО на Усход. Гэтая цвёрдая пазіцыя, па яго словах, далёка не ўсімі ўспрымаецца з апладысментамі як за акіянам, так і ў Еўропе. Адсюль спроба нездаволеных націснуць на Прэзідэнта Беларусі, у тым ліку і эканамічнымі метадамі.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:

# «БЕЛОРУССКАЯ НИВА» — ГЭТА НЯЗМЕННЫ АЎТАРЫТЭТ І ДАВЕР ЧЫТАЧОЎ»

«Прапаганда ўсяго перадавога, прагрэсіўнага, дакладна акрэсленая лінія на сацыяльную абарону і падтрымку чалавека працы — вось асноўныя традыцыі нашай вядучай сялянскай газеты, што здабылі ёй заслужаную павагу і ўдзячнасць народа». Аб гэтым заявіў, выступаючы 26 студзеня на святкаванні 75-годдзя «Белорусской нивы» Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Прасочваючы шлях газеты, якая пачала сваё жыцце ў студзені 1921 года пад назвай «Белорусская деревня», кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: мяняліся часы, а з імі і назва газеты, мяняліся пакаленні рэдакцыйных журналістаў, жанры і стыль публікацый, але нязменным заставалася жаданне калектыву дайсці да самай глыбінкі, данесці сваё страснае, праўдзівае слова да кожнага сельскага двара, да кожнага чалавека. «Нягледзячы на зменлівасць палітычнай кан'юнктуры апошніх «перабудовачных» гадоў, — адзначыў Прэзідэнт, — сумленная лінія паводзін газеты забяспечвае ёй нязменны аўтарытэт і давер чытачоў».

Гаворачы аб цяжкасцях і праблемах беларускай вёскі, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што яна, як і ўся наша краіна, перажывае цяпер нялёгкі час. «Белорусская нива» пастаянна і з болем піша пра гэта. «Вядома, што крытыка — не салодкая цукерка, у свой адрас яе ніхто не любіць, іншы раз даходзіць і да судовых іскаў журналістам, — сказаў Прэзідэнт. — Але тое, чым абураецца на сваіх старонках «Белорусская нива», і нам, у кіраўніцтве рэспублікі, прыходзіцца прымаць. Таму што гэта не крытыка дзеля крытыкі. Наша «Белорусская нива» калі кагосьці або штосьці крытыкуе, то прадметна, доказна, імкнучыся адначасова падказаць выхад і выправіць становішча. Такая канструктыўная пазіцыя газеты знаходзіць падтрымку ў Прэзідэнта і ўрада».

Павіншаваўшы аўтараў, усіх чытачоў «Белорусской нивы» з юбілеем, Аляксандр Лукашэнка ўручыў калектыву рэдакцыі камп'ютэр.

Сардэчныя віншаванні ў адрас газеты выказаў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. Ён падкрэсліў, што ва ўсе часы, у нялёгкіх умовах станаўлення новых формаў працы і жыцця журналісты рэдакцыі імкнуліся адстаяць і ўсталяваць лепшыя чалавечыя каштоўнасці, абараніць інтарэсы вяскоўцаў. Адзначыўшы цяжкасці, у якіх прыходзіцца рабіць спецыялізаваную газету аб аграпрамысловым комплексе, кіраўнік вышэйшай заканадаўчай улады выказаў упэўненасць, што праўдзівае і патрэбнае газетнае слова журналістаў здольна абудзіць у чытачоў надзею і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

А адкрыў афіцыйную частку ўрачыстасцей, праведзеных у Доме друку, галоўны рэдактар «Белорусской нивы» Міхаіл Шыманскі. Гаворачы аб шляху, пройдзеным газетай, ён падкрэсліў, што яна ўсяляк падтрымлівала і падтрымлівае ў сялянства дух стварэння, настрой на яднанне, настрой на стабілізацыю эканомікі і сацыяльнага жыцця. Павіншаваць юбіляраў у гэты ўрачысты дзень прыйшлі прадстаўнікі ўрада, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, іншыя афіцыйныя асобы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, а таксама калегі-журналісты.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

## ТЭНДЭНЦЫІ

# РАСІЯ: ЗНОЎ НАПЯРЭДАДНІ...

**Менш як пяць месяцаў засталося да таго дня, калі расіяне ў чарговы раз будуць вырашаць лёс сваёй краіны. Ад іх выбару па зразумелых прычынах у многім залежыць і будучыня Беларусі як незалежнай дзяржавы.**

90-я гады для Расіі сталі эпохай перманентных узрушэнняў, ломак і процістаянняў. Стабільная і прадказальная Расія сёння патрэбна, здаецца, усім. Самім расіянам — бо яны стаміліся чакаць кожных чарговых выбараў як надыходу рэвалюцыі з усімі яе атрыбутамі — танкамі на вуліцах і пустымі крамамі; Еўропе і Злучаным Штатам — бо там яшчэ памятаюць нацэленыя на іх савецкія ракеты і ўзведзеныя ў Берліне бетонныя муры, што паўстагоддзя раздзялялі свет; суседзям Расіі, і не ў апошнюю чаргу Беларусі — бо гравітацыйнае поле вялікай дзяржавы немінуча ўздзейнічае і на палітыку, і на эканоміку, і на духоўную сферу малых краін, якія яе акружаюць. Тым больш, што агульнае савецкае мінулае яшчэ доўга будзе заставацца істотным фактарам у знешняй палітыцы нашай дзяржавы.

Спадзяванні на стабільнасць і прадказальнасць Расіі звязваюцца ў асноўным з тым, што на крамлёўскім пасадзе пасля 16 чэрвеня застанецца цяперашні яго гаспадар — Барыс Ельцын. Сам Барыс Мікалаевіч какетліва адкладвае фармальнае аб'яўленне аб сваім рашэнні наконт удзелу ў прэзідэнцкіх выбарах. Аднак гэта імітацыя ваганняў і сумненняў — ілюзорная, — за чыстую манету яе прымаюць хіба што самыя наіўныя расійскія выбаршчыкі.

Перадвыбарная кампанія Ельцына ў поўным разгары. Кампанія прадуманая, мэтанакіраваная, узгодненая з сацыёлагамі і палітолагамі.

Барыса Ельцына ў апошнія месяцы не пазнаць. Дзе колішнія аднадумцы і саратнікі з «Дэмакратычнага выбару», якія паднімалі яго на браню танка ў жніўні 1991-га? Дзе антыкамуністычная непрымірымасць і пафасныя празаходнія прамовы?

Расійскі прэзідэнт, адчуваючы «палявенне» электарату і масавую настальгію па сацыяльных заваёвах і цвёрдаму парадку, у спешцы імкнецца патрафіць гэтым густам. Усе апошнія падзеі ў Расіі пацвярджаюць гэты тэзіс. І «мясарубка» ў Першамайскім, якую спачатку цынічна называлі вызваленнем заложнікаў і якая на самай справе задумвалася як дэманстрацыя сілы, магутнасці і жорсткасці. І зыход з урада Андрэя Козырава і Анатоля Чубайса — «апошніх магікан» былой каманды рыначнікаў. І прынароднае адмежаванне ад былых саюзнікаў і аднадумцаў.

Зразумела, ніякіх новых рэцэптаў у імкненні заваяваць галасы выбаршчыкаў Барыс Ельцын вынайсці не ў стане, паслугамі якой бы таленавітай каманды іміджмейкераў пры гэтым ён ні карыстаўся. А таму ў бліжэйшыя месяцы за найбольш абяздоленых расіян можна парадавацца: пенсіі і стыпендыі будуць расці (пра іх павышэнне Барыс Ельцын ужо аб'явіў). Цэны на самае неабходнае, верагодна, прыпыняць свой рост. Не выключана таксама масавая раздача льгот некаторым катэгорыям насельніцтва.

Як ўсё гэта нагадвае сітуацыю ў Беларусі ў першай палове 1994 года!.. Значных зрухаў у грамадскіх настроях за мінулыя два гады не адбылося. А законы сацыяльнай псіхалогіі што для нас, што для расіян — аднолькавыя.

Барыс Ельцын сёння прыкладна ў той жа сітуацыі, у якой быў два гады таму Вячаслаў Кебіч. І дзейнічаць яму наканавана ў тым жа вузкім калідоры, абмежаваным матэрыяльнымі магчымасцямі, з аднаго боку, і грузам мінулага кіраўніцкага вопыту — з другога. Кебічу не даравалі таго, што ён быў пры ўладзе ў тыя пераломныя гады, калі пераважная большасць людзей бяднела. Гэтае непрыманне немагчыма было кампенсаваць ніякімі льготамі і «замарожанымі» цэнамі.

У Ельцына ў гэтым сэнсе сітуацыя яшчэ больш крытычная. Адны яму ўспомняць Белавежскую пушчу, другія — расстрэл Белага дома ў кастрычніку 1993 года, трэція — здраду дэмакратычным ідэалам і ліберальным рэформам... Ды і са廣пернікі ў Ельцына па частцы сацыяльнага папулізму — фігуры буйнога маштабу: прафесіяналы, фанатыкі, краснабаі, якія каго хочаш пераканаюць ва ўласнай выратавальнай місіі. Куды там да іх нашым дамарослым правінцыяльным папулістам.

Кола найбольш відавочных канкурэнтаў Барыса Ельцына даўно вядомае. Расійскі фонд «Грамадская думка», які некалькі тыдняў таму паспрабаваў высветліць, за каго з вядомых палітыкаў прагаласавалі б расіяне, калі б выбары адбыліся ў бліжэйшую нядзелю, атрымаў наступныя вынікі:

Аляксандр Лебедзь — 14,9 працэнта выбаршчыкаў, якія маюць намер удзельнічаць у галасаванні;

Генадзь Зюганаў — 14,2 працэнта;

Рыгор Яўлінскі — 13,6 працэнта;

Віктар Чарнамырдзін — 12,5 працэнта.

Сацыёлагі паспрабавалі таксама высветліць, якім будзе зыход другога тура выбараў у залежнасці ад магчымых кандыдатаў, якія туды выйдуць. У пары Генадзь Зюганаў — Аляксандр Лебедзь апытаныя аддалі перавагу Лебедзю; у пары Аляксандр Лебедзь — Рыгор Яўлінскі — Яўлінскаму; у пары Аляксандр Лебедзь — Віктар Чарнамырдзін — Лебедзю; у пары Генадзь Зюганаў — Рыгор Яўлінскі — Яўлінскаму; у пары Віктар Чарнамырдзін — Рыгор Яўлінскі — Яўлінскаму.

Зразумела, што ў рэальнасці месца Віктара Чарнамырдзіна можа заняць (і хутчэй за ўсё зойме) Барыс Ельцын. Такім чынам, найбольш небяспечнымі сапернікамі для яго з'яўляюцца Аляксандр Лебедзь і Рыгор Яўлінскі. А найбольш пажаданым, як ні дзіўна, Генадзь Зюганаў (некаторыя сацыёлагі таксама лічаць, што акрамя Зюганава і Жырыноўскі). Відавочна, у гэтых выпадках на карысць Ельцыну пайшоў бы кантраст — ён міжволі зноў стаў бы цэнтрам прыцягнення ўсіх ліберальна арыентаваных выбаршчыкаў.

Зрэшты, шанцы Ельцына пацярпець паражэнне выглядаюць пакуль што куды больш верагоднымі, чым перспектыва яго чарговай перамогі. І не дзіўна, што апошнім часам у Расіі як пра зусім магчымы варыянт развіцця падзей загаварылі пра адмену прэзідэнцкіх выбараў. Зразумела, апазіцыя пра гэта гаворыць з апаскай і абурэннем, а некаторыя цалкам дэмакратычна настроеныя прыхільнікі Барыса Ельцына — як пра адзіны рэальны спосаб не саштурхнуць Расію з выбранага шляху і не павярнуць яе назад, у паласу хаосу і нестабільнасці.

Для Беларусі, вядома, зусім не абыякава, хто ўрэшце стане гаспадаром Крамля. Аднак магчымасцей паўплываць на выбар расіян у нас няма ніякіх. І адзіным відавочным і лагічным стылем паводзінаў у цяперашняй сітуацыі выглядае ўмацаванне, будаўніцтва ўласнай дзяржавы, якая павінна быць максімальна застрахавана ад таго, што любы пажар у суседнім доме можа перакінуцца на яе.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## СІТУАЦЫЯ

# ЯК РАЗМАРОЗІЛАСЯ СІСТЭМА,

## або Ці ёсць у кола пачатак?

Гэта было падобна на стыхійнае бедства. Жыхары шасці шматпавярховак пакідалі сваё жытло і ішлі з клункамі шукаць прытулку ў родных і знаёмых. Аднак стыхія тут ні пры чым, хоць і паказваў слупок тэрмометра ніжэй 20-ці, а ноччу і ўсе 30...

У ноч з 1 на 2 студзеня выйшлі са строю адначасова дзве помпы на кацельні, якая належыць Асвейскаму торфабрыкетнаму заводу. Запасных, на выпадак аварыі, не аказалася, меўся толькі рухавік, ды каму яго было ставіць у 1 гадзіну 30 хвілін ночы... Кацельня спынілася. Ваду зліць, каб выратаваць абсталяванне ад размарозкі, ніхто не памкнуўся. І ў 8 раніцы, калі пачаўся рабочы дзень, высветлілася, што трубы і радыятары скавала лёдам, яны пачалі трэскацца.

У 1971 годзе ўзведзена кацельня. Капітальны рамонт яе, які патрабаваўся, не рабіўся, больш таго, не выконваўся нават той, што называецца бягучым. Аб стане кацельні ведалі ў дзяржаўным канцэрне «Белпаліўгаз», маёмасцю якога з'яўляецца завод, і ў Верхнядзвінскім райвыканкоме. Але рэагавалі, як на застарэлы зубны боль, што лепш перацярпець. Толькі ў гэтым ацяпляльным сезоне тут двойчы адбыліся аварыі, нібыта папярэджваючы людзей. Трэцяя пакінула без цяпла 141 сям'ю.

Тры тыдні спатрэбілася канцэрну для выканання дэмантажу абсталявання. На гэтыя мэты, а таксама на аварыйны рамонт кацельні давядзецца вылажыць каля паўтара мільярда рублёў.

І хоць, як сказана пры разглядзе пытання ў Віцебскім аблвыканкоме, акты аб здарэнні будуць перададзены ў праваахоўныя органы для прыцягнення вінаватых да крымінальнай адказнасці, наўрад ці ўдасца спагнаць з іх прычыненыя страты. Хутчэй за ўсё, задаволіць усіх тое, што з займаемай пасады зняты дырэктар завода «Асвейскі» Аляксандр Сергіёнак, і запэўніванні віцэ-прэзідэнта канцэрна Часлава Круглінскага аб хуткім вяртанні сем'яў у пакінутыя імі кватэры. Словам, сістэма адрэагавала, як звычайна, і можна жыць далей, да наступнай аварыі...

А яе можна чакаць і на самім заводзе, які гэтак жа, як і кацельня, адпрацаваў без належнага рамонту больш за 20 гадоў. Знасіўся прэс, пагражальна паслабілі перакрыцці, выйшлі са строю пад'язныя пуці. Рухаецца па іх вагон, перакуліцца, яго падымуць — і зноў ідзе «канвеер». Між тым, завод патрэбен. Ён забяспечвае брыкетам паўночны рэгіён, аб тым, што трэба яго закрыць, гаворка не вядзецца. Ізноў чакаць бяды?

Пэўна, так, тым больш, што заўсёды знойдзецца апраўданне, асабліва цяпер. Хто ж папракне: час такі... Быццам не дзеля таго і задумвалася тая перабудова, каб пазбегнуць безгаспадарчасці і адсутнасці адказнасці кожнага на сваім месцы. Уразіла такая дэталь пры разглядзе асвейскага бедства: шматлікія камісіі, што пабывалі тут, прыйшлі да высновы, што адна з прычын яго — адсутнасць сярэдняга персаналу ў штаце кацельні. А дастаткова было дзяжурным машыністам той ноччу адкруціць краны, каб спусціць ваду — і ніякай трагедыі не адбылося б.

Якія пераломы і пакуты трэба яшчэ перацярпець нашаму грамадству, каб дасягнуць безумоўнага выканання «стрэлачнікамі» сваіх абавязкаў?

І з каго пачынаць, з машыніста ці з міністра? Так і напрошваецца адказ: з першага. Але быў у гэтай гісторыі яшчэ адзін нюанс: кіраўнік тут, на агульную думку, не адпавядаў пасадзе. Замяніць яго проста рукі не даходзілі, аварыя дапамагла. Вось і атрымліваецца: няма пачатку ў кола...

**П. АЛЯКСАНДРАВА.**

# БМЗ — ЁН І Ў АФРЫЦЫ БМЗ...

Каля паловы ўсёй прадукцыі Беларускага металургічнага завода знаходзіць збыт на афрыканскім кантыненце. Адна егіпецкая фірма «Трайсенд Трэйдынг» ужо сёння спажывае больш беларускага пракату чорных металаў, чым усе краіны СНД разам узятыя.

Асвойваць такія далёкія рынкі завод вымушаюць многія прычыны. Як растлумачылі карэспандэнту БЕЛТА ў Мінпроме рэспублікі, гэта абумоўлена не ў апошнюю чаргу магутнай канкурэнцыяй з боку сталеліцейных гігантаў Расіі і Украіны, але галоўнай прычынай застаецца плацежны крызіс, што паразіў эканоміку былых савецкіх рэспублік. Унутрырасійскія цэны на металапракат у сярэднім на 10—20 працэнтаў вышэй за сусветныя, аднак аплаты па выкананых кантрактах прыходзіцца чакаць месяцамі. У той жа час егіпецкі партнёр забяспечвае 90-працэнтную перадаплату, што дазваляе заводу працаваць не зніжаючы аб'ёмаў вытворчасці.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## ЯКІ Ж ТЭРМІН ВЫДАЧЫ «МАЁМАСЦІ»?

***«Звязда», дапамажы разабрацца. Я яшчэ не падаваў заяву на налічэнне чэкаў «Маёмасць». Наколькі я ведаю, па распараджэнню Прэзідэнта тэрмін выдачы імянных прыватызацыйных чэкаў падоўжаны да ліпеня. Аднак цяпер з'яўляецца нейкае тлумачэнне Міндзяржмаёмасці, і тэрмін скарачаецца да канца красавіка. Які тэрмін атрымання чэкаў на самай справе дзейнічае?***

**Мікалай РЫЖОЎ,** *Мінская вобл.*

Вы крыху заблыталіся. Справа ў тым, што згодна з распараджэннем Прэзідэнта «Аб падаўжэнні тэрміну выдачы чэкаў «Маёмасць» ад 29 снежня 1995 года працэс атрымання грамадзянамі Беларусі сваёй долі ад дзяржаўнай уласнасці падоўжаны да 1 ліпеня 1996 года. Што ж датычыцца Міндзяржмаёмасці, то яно накіравала ў аблвыканкомы, абласныя камітэты па кіраванню дзяржмаёмасцю і ААБ «Беларусбанк» тлумачэнні аб тэрмінах выдачы прыватызацыйных чэкаў у тры этапы ў астатнія тры месяцы. Так, 30 красавіка тэрытарыяльныя камісіі закончаць прыём заяў грамадзян аб налічэнні чэкаў (менавіта прыём заяў, а не выдачу чэкаў, як вы маглі падумаць). Да 1 чэрвеня выканкомы павінны зацвердзіць спісы грамадзян, якія маюць права на атрыманне чэкаў, і перадаць гэтыя спісы ў аддзяленні «Беларусбанка». А выдача сертыфікатаў чэкаў «Маёмасць» якраз і будзе праводзіцца «Беларусбанкам» да 1 ліпеня.

## НА КРЭДЫТЫ НЕ СПАДЗЯВАЙЦЕСЯ

***Як і ў большасці маладых сем'яў, перад намі востра стаіць жыллёвае пытанне. Зразумеўшы, што ад дзяржавы жылля нам не дачакацца, вырашылі будавацца самі. Але на зарплату настаўніка не тое што будавацца — пражыць цяжка. Звярнуліся па крэдыт у Ашчадны банк — нам адмовілі, звярнуліся ў адзін з камерцыйных — там працуюць толькі з юрыдычнымі асобамі. Ці ёсць у нас хоць якая надзея на атрыманне крэдыту?***

**З павагай сям'я ЦЫРКУЛЁЎСКІХ,**
*в. Куранец.*

На крэдыты лепш не разлічваць. Нават калі камерцыйныя банкі і працавалі б з фізічнымі асобамі, зыходзячы з палажэння, па якому выдаецца крэдыт, атрыманне апошняга не ўяўляецца магчымым. Мяркуйце самі. Вам патрэбна, напрыклад, двухпакаёвая кватэра. На сённяшні дзень вам неабходна мець дзесьці каля 200 млн. рублёў. Дапусцім, вам пашанцавала: вы атрымалі дазвол на крэдыт на 10 гадоў. Гэта значыць, што кожны год ваша сям'я павінна выплачваць 20 млн. рублёў плюс 66 працэнтаў гадавых. Прычым названая сума павінна складаць усяго 40 працэнтаў ад сукупнага даходу сям'і. Пытанне: якой павінна быць зарплата кожнага члена сям'і? Сума вагаецца каля лічбы 300 «баксаў». Скажыце, калі б вы мелі штомесяц 600 долараў, ці звярталіся б па крэдыт?

## ЯК ПРЫМУСІЦЬ ПРАЦАВАЦЬ ДОЛАРЫ?

***Вядома, што на руках у насельніцтва рэспублікі знаходзіцца вялікая колькасць грошай. Чаму нельга прымусіць іх працаваць на нашу эканоміку?***

**Дзмітрый НЯФЁД,** *г. Мінск.*

Як паказалі вынікі даследавання, праведзенага спецыялістамі акцыянернага ашчадбанка «Беларусбанк», у насельніцтва Беларусі зараз знаходзіцца каля 2 мільярдаў долараў ЗША. Сума каласальная, яна не ідзе ні ў якое параўнанне ні з адной са шматлікіх крэдытных замежных праграм. Аднак існуючыя ў нашых банках нізкія стаўкі па ўкладах насельніцтва, якія не пакрываюць індэкса інфляцыі, а, хутчэй за ўсё, звычайны недавер насельніцтва да беларускіх банкаў, не дазваляюць выкарыстоўваць гэтую вялізную грашовую масу ў эканоміцы дзяржавы.

Спецыялісты спадзяюцца, што выправіць становішча дапаможа праграма адкрыцця кампенсацыйных укладаў. Па яе ўмовах укладчыкі атрымаюць сто працэнтаў даходаў ад размяшчэння іх укладаў у камерцыйных праектах.



## СЯРПАСТЫ, МАЛАТКАСТЫ, АЛЕ НЕ ЗАМЕЖНЫ

***Яшчэ паўгода назад я выйшла замуж. Аднак мы з мужам прапісаны па розных адрасах, больш таго, у розных абласцях рэспублікі. Я спадзявалася, што пасля заключэння шлюбу атрымаю пашпарт новага ўзору. Але пашпарт мне вярнулі той жа, толькі з пячаткай аб сямейным стане.***

***Куды мне звяртацца, каб замяніць пашпарт: па месцы прапіскі ці па месцы рэгістрацыі шлюбу?***

**Ганна АНДРЭЕВА,** *г. Рэчыца.*

Звяртацца вам неабходна па месцы прапіскі. Там павінны ажыццявіць замену пашпарта. Аднак, як паведамілі ва ўпраўленні пашпартна-візавай службы МУС, пашпарт новага ўзору выдаюць не ўсюды, напрыклад, у раённых гарадах. Таму раім рабіць адначасова два пашпарты.

## ПОШЛІНЫ НА АЎТАМАБІЛІ

***Кабінет Міністраў выдаў пастанову аб змяненні парадку збірання пошліны на аўтамабілі замежнай вытворчасці, якія ўвозяцца ў Беларусь яе грамадзянамі. На жаль, я гэту інфармацыю прапусціў. Калі ласка, удакладніце для мяне і іншых аўтааматараў, чытачоў вашай газеты, новыя лічбы.***

**Канстанцін ЗАПЕКА,** *Гродна.*

Як памятаюць чытачы, з часу ўводу пошліны 5 ЭКЮ за адзін куб. см аб'ёму рухавіка прайшло каля паўгода. Нарэшце, пасля таго, як фактычна спыніўся імпарт замежных легкавых аўтамабіляў і казна таксама панесла страты, сапраўды, Кабінет Міністраў унёс карэктывы ў збор пошлін. Кожны грамадзянін цяпер атрымлівае права адзін раз у год увозіць аўтамабіль замежнай вытворчасці для асабістага карыстання. Пры гэтым аплата мытнай пошліны будзе рабіцца з разліку 0,3 ЭКЮ за адзін куб. см аб'ёму рухавіка. Уладальнік замежнай машыны на працягу двух гадоў не будзе мець права адчужаць свой аўтамабіль або перадаваць яго ў карыстанне іншым асобам, за выключэннем членаў сваёй сям'і. У адваротным жа выпадку прыйдзецца заплаціць пошліну па-ранейшай стаўцы ў 5 ЭКЮ.



## «КАСМЕТЫКА» ДЛЯ МАШЫНЫ

***Я жыву ў раёне і не маю магчымасці пад'ехаць у Мінск на аўтарынак, каб купіць для сваёй сціплай машыны сродкі па яе догляду. Не маглі б вы ў «Пытальніку» прывесці цэны на некаторыя з іх? Быў бы вельмі вам удзячны.***

**Ігар АЛЬШЭЎСКІ,** *Лагойскі раён.*

Калі даваць сваім вачам, то аўтарынак дасць аўтааматарам магчымасць набыць мноства патрэбных сродкаў для дагляду машыны. Цэны ж, вядома, могуць задаволіць далёка не ўсіх. Аднак сёння аб гэтым і не варта казаць. Што датычыцца цэн на некаторыя сродкі, то яны вагаюцца прыкладна ў наступных межах: напрыклад, шпаклёўка вам абыдзецца (250 г) у 3-4 долары, а сродак для чысткі панеляў — долараў у 5. «Антыпракол» для шыны, які ў апошні час часта рэкламуецца, пацягне на 6 долараў. Фарба для вашага «аўто» пацягне 165 тысяч рублёў, зразумела, за слоік (напрыклад, 0,4 літра). Паліроль у залежнасці ад ёмістасці будзе каштаваць ад 3 да 7 долараў. Герметык і клей для шкла, праkладак, бензабака выцягне з вашай кішэні ад 4 да 5 долараў, а герметык для сістэмы ахаладжэння — ад 4 да 7 долараў.

Масла каштуе 6—8 долараў, сродак для чысткі салона — 7 долараў. Арыентуйцеся прыкладна на такія цэны.

## З ЗАПЧАСТКАМІ ДАПАМОЖА «ЛЯЎША»

***У мяне і ў многіх маіх знаёмых ёсць мотаблокі Беларускага трактарнага завода МТЗ-5. Часам яны выходзяць са строю. Адкажыце, калі ласка, дзе сёння можна набыць запчасткі да гэтага мотаблока?***

**Мікалай ШМАРЛОЎСКІ,** *Бярэзінскі раён.*

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле збыту Мінскага трактарнага завода, запчасткі для гэтай і іншых машын вытворчасці МТЗ можна набыць у фірменным магазіне завода «Ляўша». Магазін знаходзіцца па адрасу: г. Мінск, вул. Будзённага, 26. Тэлефон: 30-19-96.

## КОЛЬКІ ЯШЧЭ ЛЯТАЦЬ САМАЛЁТАМ НАД ЦЭНТРАМ МІНСКА?

***Паважаная рэдакцыя. Я жыву ў Мінску, на вуліцы Чкалава. Зусім побач размешчаны аэрапорт «Мінск-1». Колькі размоў вялося аб неабходнасці яго закрыцця: пастаянны шум, забруджанасць паветра — усё ў цэнтры горада. Колькі ж нам яшчэ цярпець?***

**Марыя АБРАМОВІЧ,** *г. Мінск.*

Вымушаны вас засмуціць: яшчэ даволі доўга. Кабінет Міністраў Беларусі нядаўна прыняў пастанову аб прадаўжэнні тэрміну палётаў з аэрапорта «Мінск-1» да 2005 года. У сувязі з гэтым Мінскаму гарвыканкому пры рэалізацыі генеральнага плана развіцця сталіцы ў зоне ўплыву аэрапорта неабходна ўлічваць указанае прадаўжэнне палётаў.

## ДЗІЦЯЧЫ ПСАРЫЯЗ ЛЕЧАЦЬ У СКУРВЕНДЫСПАНСЕРЫ

***Паважаная рэдакцыя! Звяртаюся да вас з просьбай. Справа ў тым, што мой сын хварэе на псарыяз, а яму ўсяго два з паловай гады. Мы лячылі яго і ў бальніцы, і дома, аднак усё безвынікова. Чула, што ў Мінску ёсць цэнтр, дзе лечаць гэтую хваробу. Як там вядзецца прыём і ці магчыма лячэнне ў цэнтры?***

**Наташа Ж.,** *Брэсцкая вобласць.*

Такую хваробу лечаць у Рэспубліканскім скурвенералагічным дыспансеры, які знаходзіцца ў Мінску па вуліцы Прылукскай, 46-а. Тэлефоны рэгістратуры: 70-91-14, 70-91-01.

## «СЕМ МЕТАЛАЎ СТВАРЫЎ СВЕТ ПА КОЛЬКАСЦІ ПЛАНЕТ»

***«Не раз, не два чуў я гэткае выслоўе. А чаму «сем металаў» і чаму «сем планет» згадваюцца ў ім?»***

**Гэта пытанне мінчаніна В. ПАПЯРЭЦКАГА.**

Цяпер мы ведаем, што колькасць хімічных элементаў у Перыядычнай сістэме, распрацаванай Д. І. Мендзялеевым на аснове адкрытага ім у 1869 годзе перыядычнага закона, даўно перавысіла сотню.

А колькі ж хімічных элементаў было вядома чалавецтву сто, дзвесце, тысячу гадоў назад? У старажытныя часы сярод навукоўцаў было шырока распаўсюджана меркаванне, нібыта «сем металаў стварыў свет па колькасці планет...». Лічылася, што планет было сем. Ім адпавядалі золата, серабро, медзь, жалеза, волава, свінец і... сера, якую таксама калісьці прылічвалі да металаў.

Астатнія хімічныя элементы ў той час ужываліся толькі ў злучэннях, і, натуральна, дакладных звестак пра іх проста не было.

Толькі прыкладна ў XII—XIII стагоддзях да «сямі металаў» далучыліся яшчэ шэсць, і колькасць адкрытых вучонымі элементаў расла вельмі марудна.

Нават у пачатку XIX стагоддзя хімікі ведалі аб існаванні толькі 31 элемента. Але ж нездарма XIX стагоддзе лічыцца часам вялікіх адкрыццяў: за нейкіх паўстагоддзя колькасць вядомых хімічных элементаў амаль падвоілася і дасягнула шасцідзесяці.

Ну а цяпер у Перыядычнай сістэме элементаў Д. І. Мендзялеева налічваецца каля 110 назваў.

## ЗАПАРОЖСКІЯ КАЗАКІ-«ПАДВОДНІКІ»

***Час ад часу ў публікацыях пра Запарожскую Сеч сустракаю ўпамінанне пра т. зв. «падводныя чаўны». Што гэта: выдумка ці нейкія хітрасці?***

**Е. КУЛАГІН,** *г. Мінск.*

Запарожскія казакі, якія востраў Хорціцу на Дняпры зрабілі сваёй непрыступнай «крэпасцю», заўсёды славіліся рознымі ваеннымі хітрасцямі.

Вось адна з іх. Славуты французскі пісьменнік Жуль Верн, працуючы над сваім раманам «Дваццаць тысяч лье пад вадой», адшукаў у нейкай бібліятэцы марскі часопіс за 1820 год. У ім былі змешчаны нататкі французскага місіянера Фурнье, які калісьці пабываў у запарожцаў. Ён расказваў аб нейкіх «падводных чаўнах», якія запарожцы нярэдка выкарыстоўвалі ў час сваіх ваенных «мерапрыемстваў».

Прасмолены човен перакульваўся. Да яго бартоў для пагружэння ў ваду чапляліся мяхі з пяском або каменнем. Паветра, што заставалася пад дном чоўна, было дастаткова, каб некалькі чалавек пад яго прыкрыццём мелі магчымасць незаўважна падабрацца да патрэбнага месца.

Потым мяхі адчапляліся, човен усплываў, яго перакульвалі... І эфект нечаканага з'яўлення «падводнага чоўна» над вадой спрацоўваў надзейна.

## КАШУЛЯ З КРАПІВЫ



У розных народаў свету ёсць казкі пра тое, як сястрычка, ратуючы сваіх братоў ад злых чараў, рабіла, апякаючы рукі, з крапівы ніткі, а з нітак ткала палатно, а з таго палатна шыла кашулі. Яскрава ўсведамляючы сабе, што такое крапіва з яе пякучымі «ўкусамі», казка ўспрымаецца як нешта недарэчнае, нават надзвычайнае.

Але ж нездарма кажуць, што ў кожнай казцы ёсць доля праўды, прычым вялікая доля праўды. І кашуля з крапівы — зусім не недарэчнасць. З часоў старажытнага Рыма добра вядома, што крапіва ўтрымлівае луб, які можна выкарыстоўваць для вырабу тканін. Старажытныя грэкі і рымляне з крапіўнага валакна выраблялі ветразі, палатно, мяхі.

У сярэдневяковай Германіі (дзе, дарэчы, і казкі, як лічаць, нарадзіліся) нярэдкімі былі і крапіўнае палатно, і нават крапіўны ... батыст. У многіх краінах Еўропы нават у сярэдзіне XIX стагоддзя з крапіўнага валакна ткалі тканіны, плялі рэшаты і сіты для працэджвання мёду або прасейвання мукі.

Нават у нашым, XX стагоддзі, у часы першай сусветнай вайны ў краінах Еўропы з-за нехваткі лёну і бавоўны нярэдка выкарыстоўвалі крапіву.

У некаторых раёнах Расіі крапіва — таксама даволі прывычная сыравіна. Айны — малалікая народнасць, якая жыве на Сахаліне, — яшчэ ў часы мінулай вайны выкарыстоўвала крапіву для вырабу адзення і нават абутку. Камчадалы і рускія людзі, што жылі потым з імі, у XIX стагоддзі з крапівы ткалі трывалае і вельмі практычнае валакно. А рыбакі на Камчатцы з крапіўнага валакна плялі лёгкія, трывалыя сеткі, якія доўга не намакалі ў вадзе і не пакрываліся цвіллю.

***Такі адказ, сабраны з розных крыніц, на пытанне, якое задаў «Пытальніку» наш цікаўны чытач Л. ЯФСТАФ'ЕЎ з Маладзечна.***

## ЦІ ТРЭБА БАЯЦЦА ФАРБАВАЛЬНІКАЎ?

***Падкажыце, якія крытэрыі бяспекі існуюць для гарэлкі? Вельмі ж ужо часта прыходзіцца купляць моцны напой, які пры дэгустацыі аказваецца дрэнным. І яшчэ. У імпартных лікёрах, як кажуць, пры іх вытворчасці выкарыстоўваюць розныя штучныя фарбавальнікі і араматызатары. У гэтым выпадку хацелася б ведаць, ці дабраякасныя яны?***

**Зміцер ЛУКАШЫК,** *г. Магілёў.*

Пачнём адразу з другога пытання. Сапраўды, смак імпартных лікёраў для многіх спажыўцоў нязвычны. Справа ў тым, што айчынныя лікёры выробляюцца на натуральнай сыравіне, у той час як імпартныя маюць сінтэтычную аснову, выробляюцца з прымяненнем цукру, лімоннай кіслаты, араматызатараў, фарбавальнікаў і згушчальнікаў. Але пужацца гэтага не трэба. Праверкі якасці імпартных лікёраў паказваюць, што завозімая да нас прадукцыя цалкам дабраякасная. Пры яе вырабе выкарыстоўваюць толькі дазволеныя харчовыя дабаўкі (араматызатары і фарбавальнікі), утрыманне таксічных металаў у якіх у межах нормы. Што датычыцца канчатковай ацэнкі спіртнога, то яна, зразумела, застаецца за спажыўцом.

А цяпер пра гарэлку. Крытэрыем бяспекі для гарэлкі служаць паказчыкі ўтрымання метылавага спірту і таксічных металаў. Па ДАСТу нормы наступныя: метылавы спірт — менш як 0,05 працэнта, свінец — 0,3 мг/куб. дм, кадмій — 0,3 мг/куб. дм, медзь — 5,00 мг/куб. дм.

## МАРАЗМ ПАКУЛЬ НЕВЫЛЕЧНЫ

***Паважаныя вядучыя рубрыкі «Пытальнік», адкажыце, калі ласка, ці можна вылечыць старэчы маразм? Даведалася са сродкаў масавай інфармацыі, што быццам бы экс-прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган хворы на яго.***

**А. ВАСІЛЕЎСКАЯ,** *Віцебская вобласць.*

Як паведамілі нашаму карэспандэнту спецыялісты-медыкі, старэчы маразм з'яўляецца заключнай стадыяй старэчай прыдуркаватасці (слабоумия) і лячэнню не паддаецца. Гэты працэс звязаны з распадам нервовых клетак галаўнога мозгу, а яны, як вядома, амаль не аднаўляюцца. Аднак у свеце існуюць і іншыя думкі. Група французскіх і аўстралійскіх урачоў прыйшла да высновы, што старэчая прыдуркаватасць вылечваецца сама па сабе. Амерыканскія даследчыкі гэтай хваробы ў сваю чаргу абяцаюць стварыць методыку лячэння гэтай хваробы да 2000 года. Што датычыцца былога прэзідэнта ЗША, то, сапраўды, у мінулым годзе ў яго былі выяўлены прыметы хваробы Альцгеймера — адной з самых небяспечных формаў старэчай прыдуркаватасці.

**Выпуск пытальніка падрыхтавалі: Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей ПРОТАС, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

ВОДБЛІСКІ ПОЛЫМЯ

# «НАЗАД НА ВАЙНУ!»

## — гаворыць Беларусь бежанцам, «хаваючыся ў бульбу» ад канца свету ў «гарачых кропках»

У ЧАСЫ, калі насілі блішчастыя боты-панчохі і слухалі раннюю Пугачову, бабуліны расказы пра партызан і незразумелае слова «В'етнам», калі камянелі тварамі ад слоў: «Сталін — той хоць вайну выйграў» і маглі выгнаць з класа за пытанне наконт гіпатэтычнага «разводу» рэспублік Саюза, бабуля адной маленькай дзяўчынкі ўсклікнула:

— А Божухна! І гэтая лётае з нейкім карчом! Нашто табе гуляць у вайну, га?

— Што ты, гэта ж не па-сапраўднаму! — закрычала малая. — Затое, бабуля, я сёння таксама была ў разведцы!

«Па-сапраўднаму» гэта, вядома, не было — і ніколі не магло быць!

Усе заўсміхаліся. Акрамя таты. Ён кінуў позірк на разгорнуты ліст паперы з каляровымі плямкамі краін. І сам сабе: «Тут вайна. І тут. І...» Спахапіўся раптам:

— А ты што стаіш? Бяжы, гуляй!

Каляровы свет нават на карце ніяк не мог тады пахіснуцца?

Сёння колішнія «немцы» (на ролю якіх заўсёды кідалі жэрабя, бо ніхто імі быць не хацеў) і «рускія» (якія, па правілах гульні, назаўсёды былі ў пераможцах) маюць сваіх дзяцей. Яны — іншае пакаленне, гуляюць у Барбі, Чыпа і Дэйла і... Не ведаю ў што. Як не ведаю, чаму сёння малое дзіця можа са святлом у вочках распавесці бацькам, як памёр Ісус, а потым, пачуўшы голас па радыё, змоўкнуць: «Чачня...» І чамусьці, няхай на імгненне, але святло згасае...

### Непрадугледжаная катэгорыя

У дзіцячых гульнях усё па-максімалісцку: вось чужыя, вось — свае. У гульнях «па-сапраўднаму», якія адбываюцца сёння, сам чорт нагу зломіць. З аднаго боку, на ўсіх сучасных войнах усе — «чужыя». З другога, ужо не дзівішся, калі чуеш, што «сёння ў Першамайскім нашы іх бамбілі». Гэта на вуліцы. Па радыё (адным з беларускіх каналаў) — што расійскія войскі ў Чачні «міратворчыя».

Днямі знаёмы прыехаў з Каўказа — быў тыдзень у камандзіроўцы. Яна супала па часе з чачэнскімі падзеямі ў Турцыі і Дагестане. Калі знаёмы прыехаў да нас, якраз ішлі чарговыя тэленавіны.

— Ага! Загінула 150 баевікоў! — сказаў ён.

— А колькі тады?

— Радуеўцаў — усяго некалькі чалавек. Усе астатнія былі мірныя жыхары.

Ён не быў на месцы падзей. Усім вядома, што журналістаў не толькі не пускалі на месца, дзе тады яшчэ было сяло. Добра, калі не разбілі камеру, не пазабіралі касеты. Больш за ўсіх «пашчасціла» аднаму — ён быў закладнікам...

Але не пра калег размова зараз. Пра насельніцтва — катэгорыю, якая не прадугледжана ні ў дзіцячых гульнях, ні ў дарослых. У афіцыйных расійскіх крыніцах сярод блытаных лічбаў аб колькасці загінуўшых рэдка згадваюцца проста людзі — тыя, хто не трымае зброю ў руках. Пагутарыўшы з гэтымі самымі людзьмі, тамтэйшымі, можаш без усякага пытання пачуць такія лічбы, што рука не падымаецца іх тут прывесці па прычыне неправеранасці даных. Калі шукаць залатую сярэдзіну паміж «легендамі Каўказа» і «легендамі аб Каўказе» з падачы «братняй Русі», можна толькі гадаць аб тым, па якіх прычынах, наколькі і з перавагай у які бокператасоўваюцца лічбы. І калі ўсё часцей чуеш слова «бежанец», то таксама, успамінаючы тлумачальныя слоўнікі, гадаеш, ад чаго бягуць: ад вайны» ці — з вайны, «ад стыхійнага бедства...» Ці стыхійнага?

Удакладню адразу: размова не аб каўказскай (ці яшчэ нейкай азіяцкай) мафіі — гэта ў кампетэнцыі тых, хто павінен лавіць злачынцаў незалежна ад нацыянальнасці. І, вядома, не аб тых, хто ўчыніў злачынства супраць свету, чалавецтва ці цяжкае злачынства — супраць канкрэтных людзей. Над гэтым пытаннем таксама яшчэ паламаюць галаву праваахоўнікі.

Аб «проста людзях», якія нейкім чынам шукаюць паратунку ў ціхай і спакойнай, з дэмакратычна рэгламентаваным законамі жыццём, Рэспубліцы Беларусь.

### Чачэнскія рускія і чачэнскія беларусы

«Там» гэта адно і тое ж: ні Захад, ні Усход пра беларусаў не маюць уяўлення, хаця чамусьці вельмі добра да нас ставяцца. Няхай сабе так. Але ад адной з бежанак я пачула нечаканае:

— Родная Беларусь, прабачце, дала мне пад зад нагой...

І Грозны для Наталлі Уладзіміраўны таксама родны. Яе сям'я жыве там шмат гадоў. У снежні 94-га давялося з'ехаць. Праз варонкі, разваліны і трупы. Пад бамбёжкамі. Не ведаючы, што ў доме, куды трапіць снарад, цудам захаваецца іх адзіная кватэра. Якую, адрамантаваўшы, будзе немагчыма прадаць, бо і зараз у горадзе — 20—30 абстрэлаў за суткі.

Але, едучы ў нікуды, яе сям'я кіравалася на зямлю сваіх каранёў — Беларусь, якая сама некалі была зруйнавана, але не скарылася.

«У свае сорак гадоў я была наіўнай дзяўчынкай. Я верыла, што чалавека, які прыехаў з вайны, тут зразумеюць. Шкадавалі, спачувалі, але — не разумелі. Бо самі не бачылі... Ну і няхай, і не дай Бог ім убачыць!»

У мінскіх сваякоў яны пражылі сем месяцаў, якія зараз успамінаюцца, як жудасны сон. Ледзь не кожны тыдзень яе, што, як і належыць, зарэгістравалася ў міграцыйных службах, гразіліся дэпартаваць «у сваю Расію». Не вытрымаўшы грубасці, кінула аднойчы: «Рабіце, што хочаце! Бярыце за рукі, за ногі, кідайце ў машыну — дэпартуйце!»

Як і любому нармальнаму чалавеку, Наталлі Уладзіміраўне было сорамна вісець каменем на шыі сястры, сяброў, у рэшце рэшт, беларускай дзяржавы. Хаця, паводле нашага заканадаўства, жыхары Чачні, якія лічацца грамадзянамі Расіі, з набыццём статусу бежанца (з усімі адсюль належнымі дапамогамі) маюць вялікія праблемы. Пакінуўшы ў Мінску дачку, наша гераіня вярнулася ў Грозны.

«Жыць там немагчыма. Стаўленне да расійскай арміі складанае. Днём бачыш гэтых зялёных пацаноў — шкадуеш: нечыя дзеці. З надыходам вечара пачынаеш ставіцца да іх, як да забойцаў. Што тады казаць пра суседзяў-чачэнцаў? Часам пачуеш пасля страляніны: «Гэтых рускіх трэба ўсіх выразаць...» Сядзіш увечары і думаеш: з якога боку больш шанцаў памерці?..

### Беларускія «асобы каўказскай нацыянальнасці»

Большасць нашых карэнных жыхароў ставіцца да іх адмоўна, называючы гэтымі самымі «асобамі» ўсіх неславян незаходняга паходжання, няхай гэта будзе таджык, чачэнец ці грузін. Галоўнае — акцэнт і чарнявасць. І ўсё. Ты адносішся да катэгорыі «чорных». Пра цябе кажуць (не за вочы — паміж сабою), што такіх, як ты, на Беларусі ўсё больш і больш, і хутка «белая раса стане ніжэйшай». Падсвядома цябе баяцца, як быццам ты толькі што спусціўся з гор — тых самых і толькі тых, куды ўцёк Радуеў. Радуеў, якога, дарэчы, на Каўказе, па словах відавочцаў, асуджаюць. За тое, што прынізіў годнасць тамтэйшага народа (ці ўсіх народаў адразу): «Чачэнцы і ўвогуле горцы не ваююць з жанчынамі і дзецьмі». Але псіхалогія каўказцаў часцей за ўсё падказвае ім векавое, традыцыйнае: калі што здарыцца, дапамагчы «сваім». Між іншым, у гэтую катэгорыю часам уваходзяць не толькі «свае» па паходжанню. Проста тыя, хто да іх нармальна, па-чалавечы, ставіцца. Папраўку на пэўную колькасць нягоднікаў можна з поспехам унесці ў дачыненні да любой краіны.

«Нягоднік» — аб гэтым не пішуць у пашпарце, гэта не надаецца разам з мовай і колерам вачэй.

Калі я спытала ў Саіда (проста Сашы), якога забраў да сябе жыць адзін з маіх сяброў, колькі склала сума хабару, узятага ў іх міліцыяй за прадаўжэнне візы, яны змяніліся ў твары. Нават забыліся пацікавіцца, хто мне аб гэтым распавёў. Пра сустрэчы з міліцыяй не любяць распавядаць не толькі тыя, хто прыехаў на Беларусь, каб, фігуральна кажучы, «закупіць Камароўку». Не кожнаму прыемна паскардзіцца, як яго з-за таго, што прабачылі б п'янаму «рускаму», тым больш на Новы год ці іншае свята, забралі ў міліцыю, дзе «далі» штраф удвая большы, чым нейкім дзвюм бабулькам. Не кожны ўзгадае выпадак з мытнікам, калі той спытае: «Слухай, нярускі, а колькі грошай вязеш у кішэні?» Тое, што можа зганьбіць любога беларуса, для іх «асоб» — звыкла. За іх тварамі мала хто ў нас бачыць асобу.

Адкінем усякія абагульненні. Сэнс слоў «заўжды» і «ніколі» ў большасці выпадкаў хавае ў кантэксце дзіцячы максімалізм. Але калі канкрэтна, паасобку зірнуць без абыякавасці і страху (падсвядомай боязі беларусаў канчаткова згубіць сябе) — часам можна заўважыць дзіўныя рэчы. Напрыклад, тыя, што добрая частка афганцаў, чачэнцаў, азербайджанцаў мусіць быць бежанцамі ад таго, што проста... не хоча ваяваць. Бывае — нават не ведае дакладна, з-за чаго тая вайна пачалася. Ведае, што ваявалі два браты, а цяпер адзін ляжыць у шпіталі ў цяжкім стане, другога ўласны сын заве «дзядулем». Ведае, што няма грошай трапіць дадому, а з сябрамі (сябрамі?) не хочацца звязвацца? Ведае, што трапіўшы-такі на вяселле да роднай сястры, можа, як адзін чачэнец, наткнуцца ў вясельны дзень на некалькі кінутых рэфрыжэратараў з трупамі. Можа таму страшна бывае паглядзець у іх вочы? Можа таму на пытанне майго аднагодка з сівізною ў валасах, ці не была я падчас сваіх снежаньскіх вандровак у яго родным горадзе, я не ведаю, як растлумачыць, чаму я аб гэтым горадзе нічога не памятаю. Горад ёсць, ён стаіць як стаяў, проста — не чула, не была! У адказ чуеш трывожнае маўчанне. І бачыш такі позірк на здымак руін Грознага, што аб існаванні здымка лепш увогуле забыць...

### Куды мы іх «пасылаем»?

Мне расказала адна жанчына, як бежанцы розных нацыянальнасцей, дабіўшыся-такі прыёму ў адным з найвышэйшых кабінетаў, пачулі: «Навошта вы нам патрэбны?! Без вас праблем хапае. Едзьце назад, адкуль прыехалі».

Чыноўнікі, людзі з уладай у руках, маюць рацыю. Праблем хапае і без бежанцаў, якіх зараз на Беларусі каля 28 тысяч толькі зарэгістраваных. «Нелегалаў», паводле звестак МУС, прыблізна 100 тысяч, а калі ўлічыць неафіцыйныя крыніцы — у чатыры разы болей.

Без іх у нас хапае беспрацоўя і злачыннасці, без іх не хапае жылля і грошай. Ад іх, напэўна, больш разумна гаворачы мовай народа, «схавацца ў бульбу», не зважаючы на згадкі аб тым, што ў «гарачых кропках» пачынае збывацца прадказанне аб канцы свету. У лютым мінулага года быў прыняты «Закон аб бежанцах», які, паводле ацэнак экспертаў, адпавядае аналагічным міжнародным прававым актам. Але ён не пачаў дзейнічаць ні з 1 ліпеня, як гэта меркавалася, ні пазней. У бюджэт павінны быць закладзены сродкі, у буйных населеных пунктах — створаны адпаведныя структуры, распрацаваны механізм іх работы... Да таго ж адыгрывае ролю айчынны менталітэт. (Не ў крыўду кажучы. «Агульная млявасць, абыякавасць да жыцця і смага ў роце».) Плюс нецярпімасць многіх талерантных беларусаў да... напрыклад, тых «нярускіх», якія (рэдкая з'ява) могуць зазірнуць у царкву або проста па законах свайго Алаха не п'юць гарэлкі ў кампаніі.

...Мой добры знаёмы, абаяльны, таленавіты, разумны малады беларускі інтэлігент, доўга, прыгожа і дэмакратычна разважаў пра літаратуру. Мы з сяброўкай маглі слухаць, спрачацца ці пагаджацца. І вось — змена тэмы. Чачня.

— Я б тую вайну даўно скончыў. Я б усё там выпаліў, каб нічога жывога не засталося. Лазерам...

Я не ведаю, як палажыць канец войнам. Але здаецца мне, што нічога жывога хутка не застанецца і ў нас. Розніца нязначная: адных — пераб'юць, другія — вымруць самі.

Бо не ўмеюць паважаць ні саміх сябе, ні спадарожнікаў у аўтобусе, ні суседзяў па каляровай карце свету. І чамусьці вайна, на якую мы іх — назад, на іх радзіму, — няўмольна і незаўважна ідзе і ў нас, а Беларусь нагадвае дзяўчынку з 70-х. «Пісталет» такі ж «драўляны»: страляе па чужых шарах, звяртаючы на сябе ўвагу сусветнай супольнасці, а калі што — не абароніць...

Жартую. Але, як кажуць у такіх выпадках прымхлівыя людзі, — пастукаем па дрэву...

**Таццяна СНІТКО.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**• Масхадаў гатоў весці перамовы з Заўгаевым толькі як з прыватнай асобай**

Ні сам начальнік галоўнага штаба чачэнскіх фарміраванняў Аслан Масхадаў, ні адзін з яго палявых камандзіраў з кіраўніком Чачэнскай рэспублікі Доку Заўгаевым не сустракаліся і сустракацца не збіраюцца. Аб гэтым са спасылкай на самога Масхадава паведаміў старшыня Партыі нацыянальнага адраджэння Чачні Руслан Кутаеў. Кутаеў сустрэўся з Масхадавым і іншымі прадстаўнікамі дудаеўскага боку ў сераду ноччу ў адным з горных паселішчаў на паўднёвым усходзе Чачні і абмяркоўваў з імі ідэю кааліцыі, якую вылучылі ўдзельнікі «круглага стала» грамадска-палітычных рухаў і партый рэспублікі. Ён паведаміў, што Масхадаў выказаў гатоўнасць сустракацца і весці дыялог з любымі сіламі, якія хочуць устанавіць мір у Чачні. Аднак, па словах Кутаева, сустрэчы і перамовы Масхадава з Заўгаевым магчымы выключна як з прыватнай асобай, а не як з кіраўніком Чачэнскай рэспублікі. Прадстаўнікі Дудаева лічаць, што перамовы з афіцыйным Грозным не маюць сэнсу, таму, што ўзброены канфлікт ідзе не паміж імі, а паміж чачэнскім народам і расійскай арміяй.

**• Афіцыйная цырымонія прыняцця Расіі ў ЕС адбудзецца ў лютым**

Вядучы расійскі праваахоўнік Сяргей Кавалёў заявіў, што ў яго ўзніклі супярэчлівыя пачуцці ў сувязі з галасаваннем аб прыняцці Расіі ў Савет Еўропы. На думку Кавалёва, уключэнне Расіі ў ЕС неабходна і Еўропе, і Расіі, паколькі яно можа аказаць сур'ёзную падтрымку расійскім дэмакратычным сілам. Аднак Кавалёў лічыць, што ЕС не ў поўнай меры ўсведамляе адказнасць, якую ён бярэ на сябе, прымаючы Расію ў свае шэрагі. Раней Кавалёў прапанаваў Савету Еўропы абумовіць прыняцце Расіі больш жорсткімі патрабаваннямі, перш за ўсё ў галіне правоў чалавека і дэмакратызацыі. У лютым краіны, якія ўваходзяць у ЕС, павінны фармальна запрасіць Расію стаць членам арганізацыі. За гэтым адбудзецца афіцыйная цырымонія прыёму.

**• Антырасійскія мітынгі працягваюцца**

Становішча ў Чачэнскай рэспубліцы застаецца складаным. За мінулыя суткі баевікі 22 разы абстралялі пазіцыі федэральных войскаў, з іх 15 разоў — у Грозным. У выніку паранены 5 вайскоўцаў. Паводле даных Інтэрфакса, ёсць і забітыя, аднак іх колькасць пакуль не высветлена. У некаторых гарадах працягваюцца стыхійныя мітынгі, удзельнікі якіх патрабуюць вываду войскаў з тэрыторыі рэспублікі.

**• Тайна катастрофы хутка раскрыецца**

Пошукі «чорнай скрынкі» з борта самалёта Ту-154, што пацярпеў катастрофу ў Хабараўскім краі, нарэшце ўвянчаліся поспехам. Кіраўнік пошукавых работ на месцы катастрофы паведаміў, што ўчора раніцай удалося знайсці «чорную скрынку» з борта авіялайнера. «Чорная скрынка» адпраўлена верталётам у Хабараўск, потым яна будзе перададзена спецыялістам у Маскву. Па словах спецыялістаў, скрынка развалілася на дзве часткі, аднак магнітныя стужкі захаваліся.

**• Шахцёры патрабуюць належнай увагі**

Учора больш як 800 шахцёраў, якія прадстаўляюць 18 вугальных рэгіёнаў Расіі, аднавілі пікетаванне будынка ўрада на Краснапрэсненскай набярэжнай. Размясціўшыся на Гарбатым мосце, яны падмацоўваюць свае патрабаванні плакатамі і транспарантамі, а таксама рытмічным стукам шахцёрскіх касак. Сваю акцыю пратэсту шахцёры вырашылі завяршыць сімвалічным спальваннем транспарантаў і плакатаў у знак пратэсту супраць адсутнасці належнай увагі з боку ўрада да праблем вугальнай галіны.

**• Пагранпост абстраляны рэактыўнымі снарадамі**

Учора ўначы была спынена спроба пераправы сямі ўзброеных баевікоў з Афганістана ў Таджыкістан.

Чарговаму абстрэлу з рэактыўных снарадаў быў падвергнуты ў мінулыя суткі адзін з пастоў Маскоўскага пагранатрада. Пост быў абстраляны 9 рэактыўнымі снарадамі. Пацярпеўшых сярод расійскіх вайскоўцаў няма. Па выяўленых кропках праціўніка нанесены агнявы ўдар у адказ.

**• Баталія мясцовага маштабу**

Сапраўдны бой адбыўся паміж філіпінскім і кітайскім ваеннымі караблямі недалёка ад вострава Лусон. Паводле атрыманых даных, у выніку марской дуэлі кітайскі карабель атрымаў пашкоджанні, але захаваў плавучасць і быў вымушаны рэціравацца.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», радыё «Бі-эй» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Рабаўнікі — таксама людзі, даказаў нейкі Майкл, які ў масцы зайшоў на вілу ў Маямі.

Ён ужо складваў у мяшок сталовае серабро і сямейныя каштоўнасці, калі яго заспела гаспадыня дома. Ад спалоху ў жанчыны ў гадах здарыўся сардэчны прыступ, і на вачах у рабаўніка яна страціла прытомнасць. Майкл тут жа выклікаў «хуткую дапамогу» і, паклаўшы на калені галаву жанчыны, пачаў яе супакойваць. А калі на месца здарэння прыбылі ўрачы, яго, зразумела, і след прастыў. Але побач з непрытомнай жанчынай ляжаў мяшок са здабычай, які пакінуў мяккасардэчны рабаўнік, прылажыўшы запіску: «Жадаю вам добрага здароўя! Майкл».

**ЭКСТРА-ПРЭС**

Хочаце зарабіць два мільёны долараў? Вы іх атрымаеце, калі дапаможаце ўраду Калумбіі злавіць аднаго з кіраўнікоў какаінавага «картэля Колі» Хасэ Сантакруса Лапданья. Ён збег з асабліва ахоўваемай турмы «Ла Нікота». На пошук наркабарона кінуты больш як тры тысячы супрацоўнікаў элітных падраздзяленняў спецслужбаў і паліцыі. Затрыманы дзесяткі падазроных асоб. Але ўцекача сярод іх як не было, так і няма.

**ІТАР—ТАСС**

Не дачакаўшыся ўсеагульнай тэлефанізацыі, 40-гадовы вартаўнік дзіцячага сада П. за дзве бутэлькі гарэлкі дамовіўся з манцёрам падключыць яго кватэру да тэлефона якой-небудзь установы. А потым... На працягу трох месяцаў работнікам аднаго з райаддзелаў міліцыі Днепрапятроўска пастаянна хтосьці перашкаджаў размаўляць па апарату. Зламысніка хутка «вылічылі». Аказалася, ён нагаварыў «па міжгораду» на вялікую суму, не заплаціўшы за ўстаноўку і абанентную плату за тэлефон. А галоўнае, незаконна завалодаў дзяржаўным тэлефонным нумарам. Гэта кваліфікуецца як крадзеж дзяржмаёмасці ў буйных памерах, і «пірату» паграджае тэрмін да 10 гадоў турмы.

**«Труд».**

## НЕБЯСПЕЧНАЕ СВЯТА

Учора Індыя адзначала сваё нацыянальнае свята — Дзень рэспублікі. Ва ўсіх буйных гарадах краіны прайшлі святочныя шэсці, прысвечаныя гэтай важнай даце ў гісторыі Індыі. Больш як паўстагоддзя назад Індыя перастала быць дамініёнам Вялікабрытаніі і была абвешчана рэспублікай. Святкаванні адбыліся ў абстаноўцы павышаных мераў бяспекі ў сувязі з пагрозамі экстрэмістаў правесці ў індыйскай сталіцы серыю тэрарыстычных актаў. Нягледзячы на гэта, тэрарыстам удалося арганізаваць некалькі выбухаў.

**У НОВЫ ГОД тэатр оперы і балета ўступіў з прэм'ерай. Дырэктар тэатра, кампазітар Сяргей Картэс, прадставіў оперу «Візіт дамы». Музычны кіраўнік і дырыжор — Генадзь Праватораў. Да прэм'еры рыхтаваліся вельмі доўга, і да стварэння спектакля прылажылі руку і сэрца, і талент Уладзімір Халіп, які напісаў лібрэта па матывах вядомай п'есы Ф. Дзюрэнмата «Візіт старой дамы», рэжысёр Мікалай Пінігін, мастак Зіновій Марголін. Такое цікавае спалучэнне творцаў, у кожнага з якіх свой погляд на мастацтва, нарадзіла зусім не тыповы оперны спектакль. Опера пра тое, як лёгка можна страціць каханне і жыць потым з нячыстым сумленнем. Гераіня гэтага рамана — мільярдэрка Клара Цаханасьян — вяртаецца у родны горад, дзе некалі яе надзеі падмануў былы каханы Альфрэд Іл. Адзінае, чаго ёй хочацца зараз, — пакараць спакусніка. Але прыгавор павінны вынесці гараджане, небагаты горад мае шанц папоўніць казну, калі скажа: «павінен». Пастулова жыхары гарадка прыходзяць да высновы, што несумленны чалавек павінен быць пакараны.**

**Таму сёння наша размова з кампазітарам пра каханне. І размова з дырэктарам пра любоў да тэатра.**

**27 студзеня ў оперным зноў «Візіт дамы». А ў вас у гасцях Сяргей КАРТЭС, які прадстаўляе рамантычную плынь у беларускім музычным мастацтве.**

ПАСЯДЗІМ ПА-ХАРОШАМУ

# Размова пра любоў з кампазітарам

— Традыцыяй тэатра было заўсёды ўдзяляць увагу беларускай оперы. Можна прасачыць з дня стварэння тэатра: на яго сцэне была пастаўлена ўся беларуская класіка, оперы і балеты Багатырова, Глебава, Вагнера, Семянякі, Смольскага, Солтана, Бандарэнкі — усё, што выходзіла з-пад пяра. І мне пашчасціла — гэта другая мая опера, якая пастаўлена ў тэатры. Але я падкрэсліваю: чым болей будзе розных поглядаў на жыццё, на мастацтва оперы, тым лепей будзе развівацца гэты жанр на Беларусі.

**— Чым вас уразіў твор «Візіт старой дамы», што вырашылі стварыць оперу?**

— Трагікамедыя Дзюрэнмата так ярка напісана. Што патрэбна для оперы? У першую чаргу яркія характары, цікавая калізія, адна вялікая ідэя, якую можна ажыццявіць музычна. Мяне захапіла ў гэтым творы менавіта ідэя і цікавыя ў развіцці характары.

**— А свае асабістыя перажыванні, жыццёвы вопыт укладвалі ў музыку?**

— Я думаю, што кожны кампазітар становіцца трошкі героем свайго твору. Нават калі ён не перажыў гэта асабіста, ён перажывае сітуацыю разам з дзеючымі асобамі. Інакш немагчыма. Даводзіцца адчуваць сябе і жанчынай, калі ствараеш жаночую партыю, для таго каб зразумець стан гераіні. Неабавязкова, каб кампазітар сам перажыў нейкую жыццёвую драму.

**— А ў вашым жыцці былі такія драмы? І моманты, калі хацелася ўсё вярнуць і штосьці змяніць?**

— А ў каго іх не было? Але я не магу сказаць, што хацеў бы вярнуцца ў мінулае. Кожнае дзеянне ў жыцці пражываецца ў пэўны часовы прамежак, і чалавек ідзе далей. Тое, што было, добрае ці дрэннае, становіцца для яго ўрокам у далейшым. Але выправіць памылку, на жаль, мы ніколі не можам. Я не памятаю, каб у маім жыцці былі такія моманты, што трэба выпраўляць. Я заўсёды думаў: што б ні здарылася, усё ідзе на карысць. Але я ўпэўнены, што няма чалавека, у якога за спінай не было б нейкіх грахоў ці момантаў, з-за якіх можа мучыць сумненне.

Нават калі чалавек усведамляе, што яны ёсць, ці шчыра раскайваецца за свае ўчынкі, гэта ўжо нейкім чынам ачышчае яго душу. Момант збавення тут ужо ёсць. Чалавек павінен зразумець, што самае галоўнае — гэта пакаянне. І перад сабой, перад уласным сумленнем.

**— Як вашы блізкія ацанілі оперу?**

— Блізкім заўсёды ўсё падабаецца. Па-мойму, самы суровы крытык — сам аўтар. Таму што нават калі ён задаволены фактам увасаблення сваёй задумы, усё роўна крытычны голас унутры гучыць, ад гэтага нікуды не дзецца, інакш творца спыняецца. Несумненна, і ў мяне ёсць зараз меркаванне, што нейкіх рэчаў, можа, у оперы і не хапае, штосьці можна было б узмацніць. І зноў-такі ўжо няма магчымасці вярнуцца і выправіць.

**— Чым, на ваш погляд, чалавек павінен у жыцці даражыць?**

— Любоўю блізкіх. Берагчы яе, не страціць. З-за свайго эгаізму, які ўласцівы кожнаму, не прайсці міма. Гэта самае складанае, як мне падаецца.

**— Вы, як аўтар, хацелі б, каб на вашай оперы публіка плакала?**

— Суперажывала. Са мною і з героямі, вядома. Хоць і не з-за таго, што гэты сюжэт уздзейнічаў бы як мараль: рабіце так і не рабіце гэтак. Любы эмацыянальны штуршок, які дае твор мастацтва, узбагачае чалавека. Ён можа стаць трошкі лепшым. Гэта не азначае, што ён возьме канкрэтны прыклад: мне не трэба рабіць так, як гэты герой. Ці то опера, ці балет, драма, канцэрт павінны несці эмацыянальны зарад. І калі чалавек з залы філармоніі ці тэатра выйшаў напоўнены пачуццямі — значыць, мы чагосьці дасягнулі.

**— Ці лёгка знаходзіць час для музыкі, седзячы ў дырэктарскім крэсле?**

— Вельмі цяжка. Хоць тут таксама многа творчасці. Усё трэба рабіць добра. А калі добра робіш адну работу, то звычайна за кошт другой, і на яе застаецца менш часу.

**— На чым зараз трымаецца тэатр?**

— На энтузіязме. І на творчым гарэнні. Таму для мяне як для дырэктара тэатра, і для ўсяго калектыву абяцанне зрабіць тэатр прэзідэнцкім азначае перш за ўсё магчымасць выжывання. Таму што ўвесь калектыў тэатра дайшоў да мяжы жабрацтва. Мы існуем толькі на бюджэтныя сродкі. А мецэнацтва ў Беларусі не развіта. Трэба ўсвядоміць, што ніхто не дае грошы проста так. Склаліся міфы, што Ракфелер любіць мастацтва так, што ахвяруе вялікія сумы грошай. Мецэнацтва там, за мяжой, дае магчымасць не плаціць пэўную частку падаткаў, тых грошай, якія ўкладзены ў мастацтва, плюс іншых грошай, якія дадаюцца да гэтага. Толькі такім чынам пойдзе мецэнацкая падтрымка мастацтва. Мы прасілі і думаем пра тое, каб быў закон, што мецэнацкія грошы не абкладаюцца падаткам. Тут ёсць і другі бок: тыя ж грошы ад падаткаў ідуць у бюджэт, які корміць тэатр. Калі яны пойдуць прама ў тэатр — значыць, не трапяць у бюджэт.

**— У сувязі з гэтым ці лёгка вам зараз шукаць артыстаў і музыкантаў?**

— Пакуль да нас імкнуцца трапіць. Цяжка знайсці таленты. Адбор суровы, таму што наш тэатр нават перанасычаны салістамі. А талент — не такая частая з'ява. Таму мы не можам браць пасрэднага спевака, ці музыканта, ці нават харыста. Раней прыязджалі сюды працаваць з іншых гарадоў. Цяпер Беларусь можа разлічваць толькі на свае сілы. У тэатра вельмі цесныя сувязі з вакальным факультэтам акадэміі музыкі, мы сочым, хто прыходзіць туды, хто расце. Радуемся, калі бачым таленавітых маладых людзей, дастойных прыйсці ў наш тэатр.

**— А калі талент падрастае і з'язджае за мяжу?**

— Калі вельмі таленавіты чалавек, то трэба знайсці магчымасць утрымаць. І ў той жа час даць магчымасць ездзіць за мяжу, не пакідаючы родны край, родны тэатр. Вось яшчэ адна падстава, чаму нам трэба ствараць добрую матэрыяльную базу. І калі ўжо чалавек паедзе працаваць за мяжу, то не за капейкі, а дзеля сур'ёзнай працы ў добрым вядомым тэатры, дзеля добрай прапановы. Дзе ён будзе дастойна прадстаўляць наш тэатр.

**—Тэатр таксама выязджае на гастролі за мяжу?**

— Оперны тэатр быў 6 разоў у Іспаніі, быў у Германіі на гастролях. Ёсць прапановы супрацоўніцтва з еўрапейскімі краінамі. Але разам з гэтым не трэба забываць, дзе мы працуем, для каго.

Да нас стала больш хадзіць моладзі. Нават замежныя госці адзначалі, што ў іх краінах на оперу ці балет ходзіць публіка сталая. Значыць, наш тэатр працуе на будучыню, і вельмі прыемна гэта ўсведамляць.

**— Вернемся да мастацтва, да оперы, якая прымушае задумвацца пра сутнасць шчасця. Ці можаце вы назваць сябе шчаслівым чалавекам? Лічыце, што ваша жыццё склалася так, як хацелася б?**

— Так, я лічу, што вельмі шчаслівы чалавек. Я лічу сябе вельмі багатым, таму што ў мяне дзве культуры: я ўмясціў і лацінаамерыканскую, і еўрапейскую, славянскую культуру. Гэта ўжо вельмі многа. Шчаслівы, таму што ў мяне добрая сям'я, жонка, якая побач ужо 40 гадоў, двое дзяцей, якія таксама музыканты. Усё сваё працоўнае жыццё я пражыў на Беларусі, тварыў тут. Гэта мая рэспубліка, яна дарагая мне. Я грамадзянін Рэспублікі Беларусь, няхай я не беларус па нараджэнню, а па абставінах жыцця я не адчуваю сябе іншаземцам. І для мяне няма межаў у мастацтве, у якім я працую.

**Гутарыла Ларыса ЦІМОШЫК.**

ФОРМУЛА ЎДАЧЫ

## ЦІ ХОПІЦЬ ГРОШАЙ НА «МІЛУЮ»?

З'явіўся кампакт-дыск Аляксандра Саладухі «Здравствуй, чужая милая», які выпусціла фірма «Вігма». Добра, што нашы спевакі дараслі да кампактаў. Але калі паглядзець з другога боку, падаецца, што менавіта «электарат», ці слухач А. Саладухі, не дарос у фінансавым плане да добрай аўдыёапаратуры (дарагавата!), якая дазволіла б паслухаць грандыёзны твор любімага спевака. Як стваральнікі мяркуюць прадаваць кампакт?

Цікава, што падчас прэзентацыі дыска ў гандлёвым доме «На Нямізе», праводзіўся конкурс на лепшае выкананне любой песні А. Саладухі. Любой, не любой, а ўсе спявалі «Мілую». Канешне, за некалькі гадоў яе можна было вывучыць на памяць.

## ТЭАТР, ЯКІ ПАЧАЎСЯ З МУЗЫКІ

Здзейснілася! Яшчэ адзін тэатральны юбілей святкуе рэспубліка. На гэты раз — чарга тэатра музычнай камеды, які 25 гадоў спявае, танцуе і жартуе для нас. Напэўна, няма чалавека, які не быў бы зачараваны лёгкасцю, яскравасцю і прыгажосцю аперэты — жанру, які цудоўна падтрымлівае добры настрой, а калі яго няма, аперэта здольна развеяць самыя змрочныя хмары. Непрыгляднасць жыцця можна часам замяніць прыгажосцю мастацтва.

Падарунак для гледачоў паднёс тэатр — цэлы тыдзень юбілейных спектакляў. Калі вы самі не заўважылі падарунка, раім тэрмінова паглядзець на гадзіннік і падумаць, ці не спазніліся вы яшчэ трапіць у тэатр у гэтыя выхадныя. Юбілейны тыдзень адыдзе разам са студзенем.

31 студзеня адбудзецца святочны гала-канцэрт, дзе будзе многа сустрэч з салістамі беларускай (і не толькі) аперэты, а 1 лютага — урачысты вечар з віншаваннямі, удзячнымі словамі.

## *АФІША ВЫХАДНЫХ*

Калі на вуліцы завея і холад, ёсць небяспека ператварыць свой адпачынак у прагляд тэлеперадач. А гэта вельмі небяспечна. Асабліва калі гэта паўтараецца кожныя выхадныя. Але ёсць выйсце: хуценька пераапранайцеся і ідзіце ў людзі.

Тэатры Мінска апранаюць патрэбныя дэкарацыі. Як вы ўжо зразумелі, оперны ў суботу рыхтуецца да «Візіту дамы», якая прыедзе на сцэну прама ў поездзе, а потым будзе раз'язджаць там у аўтамабілі. Проста фантастычна для оперы! У нядзелю таямнічая дама саступіць месца рамантычнаму балету «Рамэо і Джульета», а гэта куды прыгажэй за гульню ў пачуцці ў розных серыялах.

У тэатры музычнай камедыі 28 студзеня «Марыца». А ў той жа дзень Рускі драматычны тэатр прадставіць спектакль «Хрыстос і Антыхрыст». На «Вольнай сцэне» сустрэнуцца ў нядзелю тыя, хто цікавіцца развіццём сучаснай беларускай драматургіі. Тут будзе спектакль «Прыватны сектар» па п'есе М. Казачонка.

Купалаўцы запрашаюць у суботу паглядзець «Умовы дыктуе жанчына», а ў нядзелю — «Паўлінку».

У філармоніі 27 студзеня выступае піяніст Юрый Бліноў разам з сімфанічным аркестрам Беларусі, якім будзе дырыжыраваць П'ер Дамінік Панэл (Францыя, Германія). У праграме канцэрт Баха рэ мінор і сімфонія № 8 до мінор Брукнера.

У нядзелю ў канцэртнай зале філармоніі вечар пад назвай «Музыка беларускага краю». Вы ўпэўнены, што добра ведаеце музыку краіны, у якой жывяце?

УСЁ МОГУЦЬ КАРАЛІ

# Новы беларускі рок-кароль дзяржаўнай абвяшчае англійскую мову

Лічыцца, што манархаў не выбіраюць. Каралі прызначаюцца нябачнай, невядомай істотай, якая знаходзіцца дзесьці ўверсе і ўважліва сочыць за падзеямі, што адбываюцца ў свеце. Ролю гэтай істоты «ўверсе» можа выконваць звычайнае журы, калі, напрыклад, трэба абраць караля ў музыцы. Такім чынам, у неманархічнай Рэспубліцы Беларусь ужо другі год запар праходзіць рок-каранацыя. Нябачная істота журы зрабіла свае стаўкі. Так што, каранавалі.

Па трох намінацыях быў адзначаны Алег Мінакоў (Джэгер) з гуртом «Рублёвая зона». Лепшы альбом у 95-м — «Put your maney now», лепшы шоу-мэн — Джэгер, лепшы гурт, лепшы, лепшы, лепшы. Карацей, астатнім камандам пасля такога каранавання засталося толькі глыбока задумацца: «А што ж мы рабілі ўвесь год?»

Напэўна, сапраўды летась па рэспубліцы гучала толькі музыка «Rouble zone», бышцам меламаны толькі і «фанацелі» на канцэртах Джэгера. Магчыма, вы чулі, былі на гэтых канцэртах? Але ёсць вялікае журы, яму ўсё бачна. Увесь час на мерапрыемстве каранацыі ведучы Віталь Сямашка спасылаўся на меркаванне журы, якое складалася з журналістаў, крытыкаў. Хоць імёны гэтых аўтарытэтных знаўцаў музыкі так і не былі названы. Шкада, было б цікава з разумнымі людзьмі пагаварыць пра стан рок-музыкі на Беларусі, а так і не ведаю, да каго звяртацца.

Асабіста я, напрыклад, нічога супраць Джэгера не маю, хлапец, які, здаецца, добра ведае, чаго хоча. Але астатняе размеркаванне ролі паміж намінантамі выглядала, што называецца, «каб нікога не пакрыўдзіць». За што можна ўзнагародзіць лідэрку гурта «Новае неба» Касю Камоцкую? Вядома ж, за тое, што яна жанчына. Калі ў бліжэйшы час на рок-небасхіле Беларусі больш не з'явіцца жанчын, то званне «рок-княэёўны», відаць, пажыццёва замацуецца за К. Камоцкай. Таксама, здаецца, што і катэгорыя «Традыцыі і сучаснасць» створана спецыяльна пад «Палац», тут і выбіраць не было з каго. Канешне, за лепшы рок-тэкст ці музыку іх не адзначыш. Але гэта не значыць, што «Палац» не можа памагацца за званне лепшага гурта Беларусі.

Дарэчы, хто ў мінулым годзе прэтэндаваў на гэта званне, таксама не сказалі. З гурта НРМ адзначылі толькі Лявона Вольскага за лепшыя тэксты ў 95-м годзе. Ну, а Ігару Варашкевічу з «Крамы» дастаўся ўжо нагта сущэльны прыз «За вернасць жанру», напэўна, з-за павагі да сівізны — чалавек жа 15 гадоў спявае рок. Але ж не запалі яго песні ў сэрца журы ў 95-м, ці ж зробіш? Канешне, хоцяць з гэтай «Крамы,» у мінулы раз былі каралямі. Хоцяць, калі глядзець з пункту сацыяльнай справядлівасці. А калі дабавіць трошкі аб'ектыўнасці, — «за вернасць» можна было б адзначыць Вячаслава Корань, які літаральна з руін імкнецца ўзняць «Уліс». А вось яшчэ цікавая катэгорыя — «Лепшы шоу-мэн». Разумею, што можна вызначыць лепшага гітарыста, вакаліста і г.д. Але ніяк не магу зразумець, што азначае тэрмін «шоу-мэн» у дачыненні да рока.

Вось такое атрымалася рок-шоу ў Альтэрнатыўным. Што да аўтаркі гэтага аповяду, то яна аддае перавагу яшчэ і чысціні жанру. Зусім незразумелым здаецца танцуючы антураж у выглядзе паўголых дзяўчат і хлопца. Для вар'етэ гэта можа і добра, толькі якое дачыненне да такіх танцаў мае рок? А побач з тымі ж паўголымі дзяўчатамі на зале хадзілі дзяўчынкі-беларусачкі ў нацыянальным адзенні. Дык нек як трэба вызначыцца арганізатарам, якія дзяўчаты ўсё ж найбольш адпавядаюць стылю беларускага рокавага мерапрыемства.

Такім чынам, беларускамоўны рок, які ўвесь час прачынаўся на тое, каб прачнуліся мазгі сугрaмадзян-беларусаў, з падачы аўтарытэтнага журы пацярпеў паражэнне. За што змагаліся, на тое і напароліся, як кажуць. Другі час — другія і песні. Адкрыта ўжо каралём у краіне пануе «Рублёвая зона». А каб зразумець назвы каралёў, трэба ўсяго толькі —ведаць англійскую мову і мець вушы, каб слухаць. Англамоўны кампакт-дыск каралёў ужо на падыходзе, і вы самі зможаце яго ацаніць. Дарэчы, на арыгінальнай для рока англійскай мове ўжо спявае і гурт з Мазыра «Парадокс», які «засвяціўся» ў катэгорыі «дэбют года».

Цікава, але сам кароль Алег Мінакоў сказаў, што, складаючы альбом, арыентаваўся на Захад, каб там пачулі і адзначылі. Што жыццёвая мэта яго — калі-небудзь дайсці да «Грэмі». Выдатнае імкненне.

Толькі хто будзе працаваць для нас?

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

**P.S.** *А з каралём мы вас абавязкова пазнаёмім у бліжэйшых нумарах.*

**Міхаіл БАКУМЕНКА**

# СКАРБЫ беларускіх магнатаў

**Л**ЕЎ ІВАНАВІЧ САПЕГА — магнат і асветнік Беларусі, які старанна выконваў многія дзяржаўныя абавязкі — сакратара, падканцлера, канцлера, а затым і гетмана Вялікага княства Літоўскага, здолеў увасобіць свой розум і вопыт у Статут — самае значнае, як сцвярджаюць многія, дасягненне юрыдычнай думкі ў Еўропе XVI стагоддзя. Закон перакладаўся на многія мовы свету і выдаваўся ў Расіі, Польшчы, Германіі. Больш як два стагоддзі ён быў законам на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Эстоніі, Левабярэжнай Украіны. Статут і сёння з'яўляецца самым значным помнікам культуры сярэднявечча. І ў гэтым заслуга яго стваральніка і рэдактара Льва Іванавіча Сапегі. Так, дзякуючы Сапегу на беларускай зямлі раней, чым у іншых славянскіх народаў, паявіўся звод законаў...

У галіне рэлігіі сам Сапега, прыняўшы ў 1588 годзе каталіцтва, змагаўся супраць заняцця палякамі пасад у царкоўных структурах, бачачы ў гэтым небяспеку паланізацыі беларусаў. Дзесяць гадоў Сапега вёў барацьбу з каралём і абараніў правы княства (значыць — Беларусі!), дабіўшыся прызначэння на віленскую каталіцкую кафедру 26 красавіка 1600 года беларуса Бенедыкта Войны.

Выдатны талент дыпламата праявіў Сапега ў 1600 годзе пры зацяжной вайне са Швецыяй, калі кароль Сігізмунд III пачаў вайну за карону дзеда і яму патрэбны быў мір з Маскоўскай Руссю. Перамогшы ў гарачых дыскусіях вядомых маскоўскіх дыпламатаў таго часу Івана Тацішчава, Стэфана і Івана Гадуновых, Міхайлу Абаленскага і іншых, Сапега дабіўся заключэння дваццацігадовага міру з царом Барысам Гадуновым у 1601 годзе.

На перагаворах у Маскве, вылучаючы праект руска-польска-літоўскай федэрацыі Л. Сапега гаварыў, што народы, якімі кіраваў Барыс Гадуноў і Сігізмунд III, «паходзяць ад адзінага народа славянскага» і «сутнасць адной веры і адной мовы». І літоўскія, і рускія дыпламаты заўсёды падкрэслівалі, што іх патрабаванні прадыктаваны не прагматычнымі меркаваннямі, а хрысціянскай этыкай. Прычым гэта было не толькі хітрасцю, але часткова і сапраўдным поглядам на адносіны паміж беларускім і рускім народам...

У другой палове XVI—пачатку XVII стагоддзя, у перыяд няспынных ваенных уварванняў крымскіх татар, Швецыі і Маскоўскай Русі, Беларусь захавала сваю свабоду дзякуючы многім фактарам, у тым ліку і рэзультатыўнай дзяржаўна-дыпламатычнай дзейнасці Льва Іванавіча Сапегі, рознабакова таленавітага чалавека, прыроджанага дыпламата, мудрага і спрытнага палітыка, публіцыста і літаратара, вельмі адукаванага юрыста і вучонага...

Са з'яўленнем у Польшчы Лжэдзмітрыя І і Леў Іванавіч Сапега, і яго сын Ян, як і многія іншыя магнаты Беларусі, падтрымлівалі авантурыста. Аднак не маюць рацыі тыя расійскія гісторыкі, якія сцвярджаюць, што Лжэдзмітрый — параджэнне палякаў. Паводле вобразнага выказвання В. А. Ключэўскага, — ён «быў спечаны ў польскай печцы, а заквашаны ў Маскве». Гэта справа рук маскоўскіх баяр і вынік вельмі складанай абстаноўкі ў Расіі, што бярэ свой пачатак з 1598 года, калі ў Масковіі тры гады запар — у 1601, 1602, 1603-м гадах — здарыўся небывалы неўраджай і голад, які суправаджаўся страшным народным паморкам, крывавымі бунтамі, а затым і паходам на Маскву Лжэдзмітрыя І, якога падтрымлівалі не толькі магнаты і шляхта, але і польскі кароль Сігізмунд, і папскі нунцый (пасол) у Польшчы — Рангоні.

Сігізмунд III — кароль польскі (1587—1632) у 1604—1605 гадах праводзячы палітыку скрытай інтэрвенцыі ў Маскоўскую Русь, падтрымліваў Дзмітрыя Самазванца, у 1609 годзе, асадзіўшы Смаленск, пачаў адкрытую інтэрвенцыю. Да войскаў Ілжэдзмітрыя далучыліся натоўпы авантурыстаў, збяднелай шляхты, што падаграваліся шчодрымі і бяздумна раздаваемымі абяцанкамі самазванца ўзнагародзіць усіх, хто яго падтрымлівае, землямі, халопамі, грашыма і каштоўнасцямі з царскай казны...

Леў Сапега, як разважлівы палітык, таксама падтрымліваў паход Ілжэдзмітрыя І на Маскву. Аслабленне Маскоўскай дзяржавы было выгадна Вялікаму княству Літоўскаму. Пазней, калі абстаноўка ў Маскве рэзка змянілася, Сапега быў сярод тых, хто 15 студзеня 1609 года на Варшаўскім сейме выказаўся за неадкладны пачатак вайны з Масквой, разлічваючы на лёгкі і хуткі поспех, паколькі тады Маскоўская Русь была знясілена не толькі казацкімі паўстаннямі, але і выматана вайной з Ілжэдзмітрыем II.

Канцлер Сапега ставіў у гэтай вайне канкрэтныя мэты — расшырыць граніцы Вялікага княства на ўсходзе за кошт уключэння смаленскіх зямель. Падтрымліваў ён і ўзыходжанне на рускі прастол каралевіча Уладзіслава, што з'яўлялася галоўнай мэтай вайны. Але гэта было потым...

«Неспакойны час» на Русі, голад і паморак настолькі азлобілі расійскі народ, што

(Працяг. Пачатак у №№ 11—12, 18—19)

ён з захапленнем сустрэў чутку аб вяртанні нібыта выратаванага царэвіча Дзмітрыя.

20 чэрвеня 1605 года самазванец беспераШкодна ўступіў у Маскву ўрачыста і пышна. Пад няспынны бой званоў усіх маскоўскіх цэркваў яго працэсія ўрачыста рухалася па вуліцах. Наперадзе палякі, літаўрысты, трубачы, дружына коннікаў з коп'ямі, пішчальнікі, калясніцы, запрэжаныя шасцёркамі, верхавыя коні царскія, багата ўпрыгожаныя; далей барабаншчыкі і палкі расіян, духавенства з іконамі і крыжамі і Лжэдзмітрый на белым кані, у шыкоўным адзенні, у ззяючых золатам каралях цаной у 150 тысяч чырвонцаў; вакол яго 60 баяр і князёў; за імі дружына літоўская, немцы, казакі і стральцы. Вуліцы былі запоўнены незлічоным мноствам людзей; на дахах дамоў і нават цэркваў, на вежах і сценах — таксама гледачы. Убачыўшы Лжэдзмітрыя, народ падаў ніцма з воклічамі: «Дзень добры, бацька наш, гасудар і вялікі князь Дзмітрый Іаанавіч, выратаваны Богам для нашага працвітання! Ззяй і красуйся, о сонца Расіі!»

Праз месяц, 21 ліпеня, ён вянчаўся ва Успенскім саборы на прастол як цар і Вялікі князь усяе Русі Дзмітрый Іванавіч. Стаўшы царом, самазванец перш за ўсё чыста знешнімі атрыбутамі імкнуўся падкрэсліць законнасць і веліч сваёй улады. Як сведчыць Г. Паерле, Ілжэдзмітрый прымаў іншаземцаў, седзячы на троне з чыстага серабра з пазолотай, пад балдахінам. Вакол трона ляжалі чатыры сярэбраныя львы, а па абодвух баках стаялі два грыфоны: адзін з дзяржавай, другі —з мячом. Марына Мнішак сцвярджала, што трон яе мужа быў з чыстага золата, што львоў было больш і яны былі «велічынёй з ваўка», і што балдахін, увенчаны дзяржавай, меў наверсе «арла велічынёй з сапраўднага і вялікай цаны».

Трон акружалі рынды — патомкі славутых сем'яў у белым адзенні і залатых нагрудных ланцугах. У руках яны трымалі пазалочаныя сякеркі — чаканы на доўгіх тапарышчах, паклаўшы іх на правае плячо лязом наперад і крыху ўверх...

Ілжэдзмітрый падвоіў жалаванне саноўнікам і войску, адмяніў многія гандлёвыя і судовыя пошліны; строга забараніў усякае хабарніцтва і пакараў многіх суддзяў; аб'явіў, што ў кожную сераду і суботу будзе сам прымаць чалабітныя ад скаржнікаў на Чырвоным ганку. Аднак загадаў усіх беглых вярнуць памешчыкам. Каб паказаць давер да сапраўдных расіян, Ілжэдзмітрый адпусціў сваіх замежных целаахоўнікаў і іншых набліжаных з палякаў, узнагародзіўшы кожнага з іх за верную службу сарака злотымі і футрамі, чым толькі павялічыў іх сквапнасць, але не задаволіў іх карыслівасці, яны хацелі намнога больш, не выязджалі з Масквы, скардзіліся на лёс і балявалі!

Лжэдзмітрый, які атрымаў кантроль над усімі багаццямі царскай казны, скарбамі Маскоўскага Крамля і Манетным дваром, раскідваў направа і налева чырвонцы, каштоўныя рэчы і ўсе маскоўскія скарбы. Назапашаныя за сотні гадоў дынастыяй Каліты каштоўнасці і скарбы расцягваліся Самазванцам без усякага ўліку і кантролю. Нават трон, на якім ён сядзеў, прапаў ў час падзей Смутнага часу, — відаць, быў разабраны на часткі ці вывезены цалкам.

Пра багацце царскай казны маскоўскіх гасудароў расказвае начальнік атрада целаахоўнікаў Ілжэдзмітрыя француз Якаў Маржарэт у кнізе «Стан Расійскай дзяржавы — аповяды пра Дзмітрыя Самазванца», выдадзенай у 1859 годзе ў Санкт-Пецярбургу:

«Я бачыў у гэтай казне да 50 царскіх адзежын, вышытых замест пазументу каштоўнымі ўзорамі; бачыў адзенне, расшытае жэмчугам з верху да нізу ці на фут, паўфута і пальцы чатыры па ўсяму кругу; з паўтузіна пакрывалаў, унізаных жэмчугам, іншыя падобныя рэчы. Там жа захоўваюцца вельмі дарагія каменні, якія штогод купляюцца, уключаючы тыя, што дорацца пасламі; чатыры кароны, з якіх тры царскія і адна старадаўняя вялікакняжацкая, акрамя падрыхтаванай, але яшчэ не зусім аздобленай для царыцы, Дзмітрыевай жонкі... два скіпетры і дзве дзяржавы залатыя».

Маржарэт упамінае таксама аб двух царскіх посахах: адным — з цэлай косці адзінарога і другім — з чыстага золата. «Я бачыў, — піша далей Маржарэт, — вельмі многа залатых талерак, бакалаў, рознай велічыні і незлічонае мноства сярэбранага посуду, вызалачанага і нявызалачанага... бачыў мноства велізарных сярэбраных тазоў з ручкамі па баках. Увесь гэты посуд рускай работы. Акрамя таго, ёсць мноства сярэбраных рэчаў нямецкіх, англійскіх, польскіх, паднесеных цару іншаземнымі пасламі ці купленых як рэдкія вырабы».

Аб дарагіх тканінах Маржарэт піша: «У казне ёсць многа ўсякай шаўковай тканіны, залатой і сярэбранай парчой, персідскага, турэцкага, усякага іншага аксаміту, атласу, камкі, тафты і іншых шаўковых тканін...

Сакратар самазванца Ян Бучынскі запэўніваў, нібыта ўсяго за шэсць месяцаў Дзмітрый раздаў з казны сем з паловай мільёнаў залатых, ці два з паловай мільёны рублёў. На пасяджэнні баярскай думы М. Н. Тацішчаў аб'явіў, нібыта пасля Барыса Гадунова засталося ўсяго дзвесце тысяч рублёў. Бягучыя паступленні склалі сто пяцьдзесят тысяч, і ў манастыроў цар пазычыў некалькі дзесяткаў тысяч рублёў.





Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

Маржарэт разам з Бучынскім і галандскім купцом Ісакам Маса неаднаразова суправаджалі самазванца ў царскую скарбніцу, і ўсе расказваюць аб поўным і бескантрольным гаспадаранні Лжэдзмітрыя ў царскай казне: «...Ды і перакапалі ўсе старажытныя скарбы, якія ляжалі сто гадоў і больш, расставілі і расклалі на яго погляд».

З розных гістарычных крыніц дакладна вядомы вялізныя канфіскацыі, зробленыя Лжэдзмітрыем з Казённай палаты. Адны падарункі каштоўнымі рэчамі, пасланыя Марыне Мнішак, склалі, паводле даных, сабраных Ісаакам Маса, на маскоўскія грошы больш за 130 тысяч рублёў. «І гэта, — дадае Ісаак Маса, — толькі тое, што дакладна вядома, не лічачы таго, што тайна было адпраўлена ў Польшчу яшчэ многа каштоўных рэчаў і нявеста магла забяспечыць сябе і сваю світу для ўрачыстага ўезду ў Маскву».

Самазванец абяцаў адправіць Мнішакам 50 тысяч рублёў на прыданае нявесце, аплату даўгоў цесця, пераезд, але ледзь паслаў пятую частку абяцанага, а іншае кампенсаваў каштоўнасцямі. Адпраўлены ў Самбор Ян Бучынскі ўласнымі рукамі склаў каштарыс «вясельных» расходаў: звыш ста тысяч злотых на выплату неадкладных даўгоў Мнішака, 100 тысяч — на пасаг нявесце, па 100 злотых кожнаму жаўнеру (Ян Бучынскі замяніў слова «жаўнеру» на «сябру»), па 50 — гайдукам. Жаўнеры і гайдукі былі запрошаны Лжэдзмітрыем на вяселле — гэта было дадатковае наёмнае войска, без якога Лжэдзмітрый не спадзяваўся ўседзець на троне.

У ролі свата Лжэдзмітрыя выступаў дзяк Афанасій Уласеў з пасольствам у 300 чалавек, якое даставіла ў Польшчу царскія падарункі: Юрыю Мнішаку, бацьку нявесты, — футра з царскага пляча, варанога каня ў залатым убранні, каштоўную зброю, дываны і футры. Падарункі нявесце, выстаўленыя ў каралеўскай рэзідэнцыі, выклікалі агульнае здзіўленне. Тут быў жамчужны карабель, які нёсся па сярэбраных хвалях (яго ацэньвалі ў 60 тысяч злотых), шкатулка ў выглядзе залатога вала, поўная алмазаў, пярсцёнкі і крыжы з камянямі, вялікія жамчужыны, залачоны слон з гадзіннікам, забяспечаным музычным устройствам і рухомымі фігуркамі, мноства парчы і карункаў.

Пасланцы Лжэдзмітрыя адвезлі ў Самбар дзвесце тысяч злотых, а затым яшчэ шэсць тысяч залатых дублонаў. Наёмнікі патрабавалі вялікіх грошай, і Мнішак разрываўся на часткі. Паспешліва шылі новыя сукенкі і збіралі пасаг, дастойны царскай нявесты. Адначасова людзі Мнішака закуплялі вялікімі партыямі зброю і ўсюды вербавалі ландскнехтаў. Грошай не хапала, і Мнішакі пазычылі 14 тысяч злотых у царскіх пасланцоў, набралі на дванаццаць тысяч злотых у маскоўскіх купцоў футраў і сукна.

Ілжэдзмітрый слаў падарункі не толькі сваёй нявесце Марыне Мнішак, але і каталіцкай царкве. «У далейшым, — піша Маса, упамінаючы аб новых пасылках у Польшчу, — не быў забыты і папа рымскі».

Аб атрыманых падарунках у сваім дзённіку піша і сама Марына, упамінаючы сярод розных падарункаў пра абраз Троіцы, усыпаны самацветамі, пра падарункі яе бацьку, брату і іншым сваякам, а таксама пра дары, якія, як ёй было вядома, былі пасланы самазванцам польскаму каралю Сігізмунду.

Стаўшы рускім царом, Ілжэдзмітрый вёў грашовыя справы з ранейшай лёгкадумнасцю. Ён літаральна хварэў на сквапнасць. Не задавальняючыся крамлёўскімі скарбамі, ён купляў любыя каштоўнасці, якія трапляліся яму на вочы. Пачуўшы аб страсці да пакупак, у Маскву спяшаліся купцы і гандляры каштоўнасцямі з Польшчы, Германіі і іншых краін. Калі ў самазванца скончыліся грошы, ён пачаў разлічвацца з гандлярамі вэксалямі. У Маскву пацягнуліся крэдытары Атрэп'ева ў дні яго замежных вандраванняў, прад'яўляючы даўнія вэксалі да аплаты. Самазванец столькі наздаваў вэксаляў, што Казённы прыказ адмаўляўся аплачваць іх...

Схільны да франтаўства, Ілжэдзмітрый на прыёмах і балях па некалькі разоў мяняў адзенне, з'яўляючыся спачатку ў рускім армяку, у футры, а затым у страката-чырвоным аксамітавым жупане з зялёнымі і сінімі кветкамі па ім і чырвонай аксамітавай апанчы з шасцю сэрцамі на месцы пятліц. Галаву яго ўпрыгожвала венгерская шапачка з пяром. Каб дадаць сабе росту, ён насіў незвычайнай вышыні футравыя шапкі і боты на высокіх абцасах.

2 мая 1606 года царская нявеста са світай прыбыла ў Маскву. Уражанне было такое, што ў горад уступае армія, а не вясельная працэсія. Наперадзе ішла пяхота са зброяй. За ёю ехалі коннікі, закаваныя ў панцыры, з коп'ямі і мячамі. Гарцавалі гусары. За карэтай Марыны ішлі шляхцічы ў прыгожым убранні. Іх суправаджаў натоўп уброеных слуг. За войскам ішоў абоз. Размясціўшыся за варотамі адведзеных ім двароў, прыслуга разам са скарбам выгружала з фур зброю і ахапкамі насіла яе ў дамы...

(Працяг будзе).

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ПАДАЮЦЬ ЗОРЫ

Паэт і зоркі. Іх існаванне непадзельнае. Душа паэта, асвечаная памяццю касмічных высяў, пастаянна выпраменьвае святло, якое ўвасабляецца ў лірычных радках, што пабуджаюць усіх, хто дакрануўся да іх, пачуццямі дацягнуцца да нябесных вышынь, хоць у думках вярнуцца ў завоблачныя далі. Людзі прагнуць бачыць зоркі, жадаюць адчуць іх таямнічую сілу, устрапянуцца душою ад іх чароўнай красы. І пры любой магчымасці згадваюць іх.

Так было і з Алесем Бадаком у той летні дзень 1994 года, калі дамоў патэлефанаваў Леанід Захлеўны. Ён папрасіў заехаць у Саюз кампазітараў і праслухаць там музыку да новай песні. У іх сумеснай творчасці склаўся такі парадак: Леанід выношваў мелодыю, апрацоўваў яе, занатоўваў, а потым прапаноўваў напісаць тэкст. У садружнасці Леанід і Алесь ужо стварылі песні «Асенні вечар», «Дзіўны востраў». Леаніду, як і іншым кампазітарам, якія працавалі з Алесем, падабалася яго здольнасць адчуць музыку, па-свойму асэнсаваць яе і напісаць паэтычны тэкст з запамінальнымі вобразамі, трапнымі мастацкімі дэталямі.

Мелодыя, якую найграў Леанід, кранула Алеся. Яе плаўнасць, вальсавасць прыносілі адчуванне палёту, знаходжання ў нейкім дзівосным закалыханым стане. Настрой кампазітара, які напісаў музыку пад уздзеяннем веснавых хваляванняў (на партытуры пазначана нават дакладная дата: 19.04.91), перадаўся паэту.

Тэкст песні склаўся амаль адразу. Мелодыя навеяла Алесю прыемныя ўспаміны: у памяці ўсплывалі знаёмыя ляхавіцкія краявіды, вечаровы змрок, зорнае неба, прысутнасць блізкай асобы. Пакуль ён пераходзіў плошчу Свабоды, ад Саюза кампазітараў да прыпынку насупраць, верш быў складзены.

Кампазітару вельмі спадабаўся тэкст. Асабліва ўражваюць мастацкія дэталі, якія вынікаюць з фальклору, перарастаюць у па-філасофску абагульнены вобраз. «Падаюць зоры...» — вобраз-асэнсаванне: у тыя імгненні, калі рушыцца вечнае з вечных — прамяністая зорка, закаханыя імкнуцца паспець загадаць на будучыню, пажадаць трываласці адносінаў, застацца побач з любаю асобаю назаўжды. У каханні ўсё парадаксальна: імгненні ператвараюцца ў вечнасць, трываласць грунтуецца на разбурэнні, нараджэнне — на смерці. Якраз гэты рамантычны выраз «падаюць зоры» Алесь паклаў у аснову прыпеву.

Прэм'ера песні «Падаюць зоры» адбылася 7 жніўня 1994 г. Яе спявалі Якаў Навуменка і Наталля Раманоўская. Мяккі, задушэўны дыялог узнаўляе непаўторныя моманты сустрэч, вечнага жадання заставацца разам, выклікае светлыя ўспаміны пра маладосць, пра хвіліны, напоўненыя страснымі пачуццямі кахання, калі сэрца, не зважаючы на разнастайныя абставіны, прагне паразумення, адзінства.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*Верш Алеся БАДАКА* *Музыка Леаніда ЗАХЛЕЎНАГА*

Я твае пацалую далоні.
Мне так цяжка было без цябе,
Што баюся я нават сягоння
І на міг адпускаць ад сябе.

*Прыпеў:*
Падаюць зоры, падаюць зоры
Ціхай начною парой.
Падаюць зоры, падаюць зоры,
Светлаю стануць расой.
Я загадаю: ў шчасці і горы
Не расставацца з табой.

Гавары, буду слухаць да рання
І хмялець ад пагляду твайго.
Што мы зналі з табой пра каханне
Да разлукі ў некалькі год?!

*Прыпеў.*

Што было — назаўсёды пакіне
І растане ў зорнай начы.
Мы ў мінулае дзверы зачынім
І далёка закінем ключы.

*Прыпеў.*

У тэмпе вальса

mf
Я тва- е па-ца-лу-ю да-ло-ні Мне так
цяж-ка бы-ло без ця- бе, што ба-
ю- ся я на-ват ся-гон- ня і на
міг ад-пу-скаць ад ся- бе.
Па- да-юць зо- ры, па- да-юць зо-ры
ці-хай нач-но-ю па-рой.
Па- да-юць зо-ры, па- да-юць зо-ры
све-тла-ю ста-нуць ра- сой
Я за-га-да-ю ў шча-сці і го-ры
не рас-ста-вац-ца з та- бой
Я за-га-да-ю: ў шча-сці і го-ры
не рас-ста-вац-ца з та-бой. Га-ва- бой

# ЦІ МОЖНА ЗРАБІЦЬ «НАРОДНЫ» СУПЕРШЛЯГЕР «НА МОВЕ»?..



**Яшчэ зусім нядаўна імя паэта Алеся Бадака ледзь не штодня гучала па беларускім радыё. Зразумела, не па прычыне яго паэтычных здабыткаў. І зусім не таму, што Бадак піша добрыя альбо дрэнныя вершы. Літаратурныя перадачы гучаць, як правіла, бліжэй да паўночы. І ўсенародную раскрутку радыё паэту прынесці не можа. Алесь Бадак — паэт-песеннік. Напісаў, нягледзячы на свае маладыя гады, недзе каля сотні песень. Выканаўцамі яго твораў з'яўляюцца Аляксандр Саладуха, Іна Афанасьева, Якаў Навуменка і шмат хто яшчэ з добрых беларускіх спевакоў. І ўсё ж Алесь Бадак згадваецца ў дачыненні да беларускай песні нашмат радзей. Што ж здарылася? На гэтае і іншае пытанні і адказвае паэт-песеннік Алесь БАДАК.**

**— Алесь, мне, як дылетанту ў песенных справах, падаецца, што быў час, былі гады, — я маю на ўвазе час руплівай беларусізацыі, урачыстага шэсця Закона аб мовах, — калі беларуская песня была ўсім патрэбна. Прызнацца, я нават дзівіўся, як гэта так складна па-беларуску спявае Аляксандр Саладуха...**

— Магчыма, нават за ўсю папярэднюю гісторыю свайго існавання беларуская эстрадная песня не мела такога стымулу для развіцця, а беларускае слова не карысталася такім попытам сярод кампазітараў і выканаўцаў, як у апошнія некалькі гадоў. За гэты час з'явілася небывалая для нас колькасць твораў, якія калі і не любілі, то ва ўсякім разе ведалі практычна ўсе. Успомні, напрыклад: «Гуляць дык гуляць», «Цыганка», «Малады і нежанаты», «Белае віно і чырвонае», «Даставай, Язэп, гармонік»... Але там, дзе мастацтвам кіруе не здаровы сэнс, а палітычныя амбіцыі, цудоўны палац вельмі лёгка ператвараецца ў міраж. У нас і раней цалкам беларускамоўныя музычныя радыё- і тэлеперадачы (я маю на ўвазе рэгулярныя і розныя песенныя конкурсы, хіт-парады, фестывалі) можна было пералічыць на пальцах адной рукі. Летась жа іх не стала наогул. Калі не лічыць, вядома, некалі маладзечанскі, а цяпер мінскі фестываль беларускай песні і паэзіі, які рыхтуе нястомны Міхаіл Фінберг, але ж ён праходзіць толькі раз у год. Ды і то шырацца чуткі, што можа нават будзе праводзіцца радзей.

**— У мяне такое ўражанне, што мы замест размовы па сутнасці настройваемся на хвалю адраджэнска-актуальнай (праўда, не сёння, а недзе двума-трыма гадамі раней) тэрміналогіі, спадручнага для яе абсягаў дыялогу...**

— Я ні ў якім разе не супраць рускамоўных песень...

**— Алесь, ды я ж цябе не абвінавачваю. Хачу дазнацца праўду: няўжо леташняе майскае волевыяўленне адбіла ахвоту спяваць па-беларуску ў тых, хто яшчэ ўчора, відаць, толькі і чакаў, што ты як найхутчэй для іх напішаш песню?**

— Пры чым тут абвінавачванні? Перакананы, што кожны творца павінен пісаць на той мове, якую ён лепей адчувае, якая яму бліжэй. І рускамоўныя песні павінны гучаць на розных фестывальных і конкурсных пляцоўках. Але я не разумею, навошта ім імкнуцца сесці на ўжо занятую беларускай песняй лаву, калі побач процьма пустых?!

**— Не ведаю, пра якую ты лаву гаворыш. Як на мой прыватны погляд, то пра цеснату ці не зарана гаварыць. Былі б песні — будуць і лавы. Няхай сабе і «тапчоны» будуць, але ж каб толькі песні былі. Сапраўдныя, беларускія песні.**

— Усё ж я перакананы, што беларуская песня будзе жыць. І гаворка, у прынцыпе, не аб тым. Гаворка ж пра тое, што яна апошнім часам пачала імкліва страчваць заваяваныя ёю пазіцыі. Калі, здавалася, і самыя вялікія скептыкі вось-вось паверацъ, што можна зрабіць «народны» супершлягер і «на мове», што Масква, у бок якой многія ўсё яшчэ глядзяць з наіўным спадзяваннем, прызнае толькі «мову» грошай, прычым у такой колькасці (для сапраўднай «раскруткі»), што трэба прышываць спецыяльную кішэню, каб іх умясціць. Сёння, сустракаючыся з кім-небудзь з гэтых маладых скептыкаў, я часам чую: «А давай перакладзём нашу... (а далей ужо ідзе назва песні) на рускую мову. Цяпер жа можна...» Шкада, што ў нас вельмі мала такіх аўтарытэтных і ўсімі любімых прафесіяналаў, як, напрыклад, Анатоль Ярмоленка, які не толькі сам усё жыццё прапагандаваў і прапагандуе беларускую песню, але і пераконвае ў неабходнасці гэтай справы сваіх цудоўных выхаванцаў са студыі «Сябры». Ці той жа Міхаіл Фінберг. Ці музычны рэдактар Людміла Палкоўнікава, якая прывяла ў беларускую эстраду многіх маладых творцаў, у тым ліку, дарэчы, і мяне.

**— Вось мы і дабраліся да цябе. Чаму ў апошні час радзей пачала гучаць твая песня, песня, зробленая дзякуючы табе як паэту?**

— У асноўным я працаваў для беларускай маладзёжнай песні. Працаваў з маладымі выканаўцамі. Загадзя заўсёды быў упэўнены, што тое, што я раблю, ва ўсякім разе большасць маіх песень разлічана гады на чатыры гучання. Словам, пісаў для беларускай маладзёжнай эстрады.

**— А наколькі ж сама маладзёжная эстрада, выканаўцы рэагавалі менавіта на тваю творчасць, наколькі актыўна бралі твае песні?**

— Ты ж сам сцвярджаеш, што раней мае песні даволі часта гучалі. Значыць, попыт быў. Сёння ж сталі гучаць радзей не мае песні, а стала гучаць радзей увогуле беларускамоўная песня. Паглядзі, колькі за апошнія гады з'явілася беларускіх шлягераў? Раней жа ў садочку дзеткі спявалі: «Цыганка — раз, цыганка — два»... А сёння што? Ці з'явіўся сёлета хоць адзін шлягер, які спявала б рэспубліка?

**— Дык, можа, якраз прычына ў паэтах-песенніках?**

— Не, я думаю, што прычына крышку ў іншым. Чаму раней нараджалася шмат шлягераў, а зараз — ніводнага? Адзін са шляхоў, дзе ёсць вялікі стымул, — калі шлягер пішацца пад канкрэтную перадачу. Была ў нас (цалкам беларускамоўная) «Залатая ліра» — той жа хіт-парад беларускай песні. Усе ведалі, што на гэтую перадачу трэба выходзіць з беларускамоўнай песняй. Калі ты напішаш добрую песню, то яна ўвойдзе ў фінал. Адпаведна — будзе гучаць у спрыяльны для слухачоў і гледачоў час. Магчыма, песня будзе растыражавана ў аўдыёкасетах. Для спевака, кампазітара, паэта быў стымул. Зараз такіх перадач няма. Беларускамоўных. Зменшыўся попыт. Мала таго, тут яшчэ і такая бяда. Беларускую песню ў нас пісалі ў асноўным паэты-прафесіяналы, аўтары многіх вершаваных кніг. Рускія ж тэксты пісалі адзінкі прафесіяналаў, а ў большасці — людзі, якія налаўчыліся рыфмаваць «крок —зрок». І зараз хлынуў паток гэтых песень. І па радыё, і па тэлебачанні. Людзі вельмі далёкія ад паэзіі, але яны лічаць, што могуць пісаць песні.

**— Чаму паэты ўвогуле звяртаюцца да песеннага жанру?**

— Хаця і цяжкі гэта клопат, але песня — усё ж лёгкі, больш кароткі шлях да папулярнасці. Сёння ты напісаў шлягер, заўтра ён будзе пачуты ўсёй краінай, ты станеш папулярным.

**— Мажліва, гэта і дарагая праца для паэта — пісаць песні?**

— У сэнсе матэрыяльным?

**— Так.**

— Гэта якраз праца вельмі недарагая. І, наколькі я ведаю, сёння песні амаль што не аплачваюцца. Ва ўсякім разе, працэнтаў недзе пяцьдзесят маіх песень ішлі бясплатна. Я пісаў не для радыё, а для выканаўцаў, для кампазітараў.

**— Скажы шчыра, ці часта да цябе звярталіся нашы беларускія выканаўцы з просьбай напісаць песню для іх?**

— Увогуле гады два, а можа і тры я аддаў цалкам песеннай творчасці. Практычна ў мяне не было ніводнага тыдня, калі б я не працаваў з новай музыкай, калі б не шукаў у сабе новы тэкст. Сёння я адчуваю па сабе, па сваіх сябрах-паэтах, што звяртаюцца спевакі, кампазітары ўсё радзей.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПРЭМІІ ЧАКАЮЦЬ СВАІХ УЛАДАЛЬНІКАЎ

**У Міністэрстве культуры і друку пачата падрыхтоўка да Міжнароднага дня тэатра.**

Да 27 сакавіка неабходна зрабіць вялікі аб'ём работы. Асноўная яе частка ляжа на плечы камісіі на чале з народным артыстам СССР Расціславам Янкоўскім. Ёй трэба будзе адабраць пяць кандыдатаў на вышэйшыя тэатральныя прэміі.

Пакуль жа ўсе тэатры краіны заняты тым, што вылучаюць сваіх прэтэндэнтаў. А яны, перш за ўсё, павінны быць дастойны імён тых выдатных дзеячаў нацыянальнага мастацтва, якімі названы прэміі: Ларысы Александроўскай, Ігната Буйніцкага, Еўсцігнея Міровіча, Кандрата Крапівы і Любові Мазалеўскай.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 27 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**9.55** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма. **10.15** Еўрапейская дваццатка. Музычная праграма MTV. **11.00** «Маё каханне, мой смутак». **12.00** «Свет прыроды і захапленняў». **12.35** Шматгалоссе. **13.05** Калаж. Для дзелавых людзей. **13.30** «Прэм'ера». Дак. фільмы «Рыбацкае шчасце», «Вандроўкі па Браславе». **14.15** «Ліса, мядзведзь і мужык». Мультфільм. **14.25** «Калейдаскоп сустрэч». Беларускія школьнікі ва Узбекістане. **15.25** Музычны салон Элеаноры Язерскай. Госць праграмы — балетмайстар Валянцін Елізар'еў. **16.20** Беларускі дом. Да 75-годдзя народнага пісьменніка Беларусі І. Мележа. **17.00** Чацвёртае вымярэнне. **17.45** «Зорная ростань». Брэсцка-Магілёўскі тур. **18.25** Галерэя. Рабочы-рацыяналізатар Леанід Патаповіч. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай. **19.00** «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі». Маст. фільм. 1-я серыя. **20.05** Банка коміксаў. **20.40** Калыханка. **21.00** Навіны. **21.45** «У Новы год — з надзеяй і дабром». Частка 3-я. **23.35** «Тыгры ў памадзе». Маст. фільм (Італія).

### ГРТ

**8.00, 14.00, 17.00, 22.25** Навіны. **9.30** «Не зявай». **10.00** Ранішняя пошта. **10.35** Смак. **10.50** «Неяк аднойчы...» **11.00** Аляксандра і Марк Захаравы. **11.45, 14.20** Мультфільмы. **12.00** Р. Быкаў у гістарычным фарсе «Яно». **14.45** У свеце жывёл. **15.20** «Акно ў Еўропу». **15.50** Бамонд. **16.10** «Шчаслівы выпадак». **17.20** Тэлескоп. **17.55** Вясёлыя гісторыі ў «Ералашы». **18.20** «Жанчына, якая спявае». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.40** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло». Серыял. **21.35** «Брэйн рынг». **22.35** Камедыя «Дарога на Вэлвіл».

### Канал «Расія»

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Весткі. **7.25** «Што дзень наступны...» **7.30** «Ваўкулакія, ці Загадка доктара Нікадзіма». **7.45** Залаты ключык. **8.05** Этыкетка. **8.15** Твае магчымасці, чалавек. **8.45** Парламенцкі тыдзень. **9.30** Вялікі хакей. **10.00** Як жыць будзем? **10.45, 22.30, 23.55** Служба 299-00-00. **11.00** Кар'ера. **11.30** Пілігрым. **12.15** Сігнальны экземпляр. **12.25** Караоке па-руску. **12.45** Кінаафіша. **13.20** Дэ факта. **13.35** «Эмілі». Тэлефільм (Канада). **14.30** Футбол без граніц. **15.10** Імперыя гульняў. «Гладыятары». **16.00** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Адвольная праграма. **17.15** «Вальс залатых Цяльцоў». Маст. фільм. **18.25** Камедыя становішчаў. Фрэдзі Стар. **19.25** «Суботні вечар з Максімам Дунаеўскім». **21.05** Зусім сакрэтна. **22.45** Рака часу. **22.50** Аўтаімгненне. **22.55** Праграма «А». **0.10** Адамаў яблык.

### НТБ

**17.00** «Дыназаўрык, якога звалі Дзінк». **17.30** «Дог-шоу. Я і мая сабака». **18.00, 21.00** «Сёння». **18.35** Дак. фільм. «Шпіёны». 5-я серыя (ЗША). **19.05** «Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску». **20.00** Надоечы. **20.45** Лялькі. **21.35** «Нелюдзь». Маст. фільм. **0.05** Трэцяе вока. **0.50** Начны канал. «Плейбой».

### Санкт-Пецярбург

**9.00** Стыль жыцця. **9.20** «Прызванне». Маст. фільм. **10.45** Дзень нараджэння. **10.50** «...І ўсё былое». **11.30** Ток-шоу «Наўздагад». **12.00** «Чароўная гісторыя». Музычны спектакль для дзяцей на музыку Марыса Равеля. **12.55** «Каштанка». Мультфільм. **13.30** Цэнтр міжрэгіянальных праграм. **15.00** Тэатральная правінцыя. **15.30, 18.30, 21.00** Інфарм ТБ. **15.40** Ленінградская блакада. **16.10** Зебра. **17.00** Тэлеканал «Не хочаш — не глядзі». **17.50** «Нічога, акрамя...» **18.10** Вялікі фестываль. **18.55** Спартыўная праграма. **20.25** Музычны момант. **20.30** «Смерць у прамым эфіры». Крымінальная гісторыя. **21.20** «Назаўсёды». Маст. фільм (Італія). **22.55** Музычны рай.



**Сябры, адгукніцеся!**

**Бажэнка У.В. і тыя, хто скончыў Рэчыцкі землеўпарадкавальны тэхнікум у 1958 годзе! Мой адрас: 230026, г. Гродна, бульвар «60 гадоў Кастрычніка», дом 20, кв. 79. ЕРМАЛІЦКІ Анатоль Аляксандравіч.**




# Вячаслаў Кліменка

***Якая дарога прывяла да храма сатыры і гумару?***

— Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут імя Кірава. Тры гады адпрацаваў інжынерам на Мінскім заводзе вузлоў ЭВМ. Пасля чаго зусім выпадкова для самога сябе стаў вольным мастаком.

***Што знаходзіш у творчасці?***

— Карыкатура імкнецца вярнуць чалавеку тое, што ў яго адняў грэх, — душэўны спакой і радасць жыцця, нягледзячы ні на якія жыццёвыя штормы і буры, што бушуюць вакол яго, ілжывыя ісціны і крывадушныя адносіны, якія навязаны яму няпісанымі законамі зла.

***Жыццё ставіць складаныя пытанні. Дзе шукаеш адказы на іх?***

— Любімая кніга — Біблія. Чалавечая мудрасць змяншае скаргі, але не пакуты. Божая мудрасць, увасобленая ў слове Божым, адчыненым свету праз Біблію, аднаўляе сувязь паміж чалавекам і Творцам, адчыняе нам вароты Эдэмскага саду.

***Але, на маю думку, гумару ў Бібліі малавата...***

— «Заўсёды радуйцеся» — гэта біблейская ісціна, безумоўна, прымусіць многіх перагледзець свае погляды на жыццё, якое трэба прымаць такім, як ёсць, не забываючы, аднак, «выпрабаваўшы ўсё, прытрымлівацца лепшага». Вось ужо больш за тры гады я прытрымліваюся гэтага, на мой погляд, лепшага — захаплення карыкатурай.

**Гутарыў Леанід РАЗЛАДАЎ.**



Разам з сынам, Славікам-малодшым.



















## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

***Перакладзіце з рускай на беларускую мову наступныя словы:***

**Па гарызанталях**: 7. Пушка. 9. Защита. 10. Определение. 11. Выгул, отгул (с/х). 13. Камыш. 15. Кузнечик. 16. Колхоз. 18. Стадо. 19. Похлёбка. 20. Полынья. 22. Цветок. 24. Дань. 26. Чурка, чурбачок. 28. Бурт (овощей). 30. Тёща. 31. Попечение. 32. Прутья. 33. Василёк. **Па вертыкалях**: 1. Наковальня. 2, Пастьба (в пути). 3. Каратель. 4. Известняк. 5. Даль. 6. Изнеможение. 8. Утварь. 12. Отзвук. 14. Запаздывание. 17. Сев. 18. Состав. 21. Заноза. 23. Рвачество. 25. Корыто (для стирки). 26. Клеёнка. 27. Основание. 29. Сахар. 30. Плотник.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**



## АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**КРЫЖАВАНКА (13 студзеня)**. **Па гарызанталях**: 4. Блытаніна. 6. Рабаўласнік. 9. Пралаз. 10. Юда. 11. Натоўп. 15. Качар. 16. Задышка. 17. Хабар. 20. Пацалунак. 21. Паратунак. 23. Выраб. 24. Сітаўка. 25. Жорны. 28. Абцугі. 29. Дах. 30. Пралік. 33. Тэлебачанне. 34. Тарпатына. **Па вертыкалях**: 1. Выраз. 2. Даследчык. 3. Гірса. 4. Блазан. 5. Асілак. 7. Пажаданасць. 8. Новабудоўля. 9. Прагарына. 12. Прадажнік. 13. Парафія. 14. Скварка. 18. Сум. 19. Шал. 22. Завадатар. 26. Агрэст. 27. Гронка. 31. Нетры. 32. Рацыя.

**ПЯЦЬ ПЫТАННЯЎ ЭРУДЫТАМ (13 студзеня)**. Адлюстраваныя: а) птушка — фламінга, б) марская жывёліна — васьміног, в) метэаралагічны знак — навальніца, г) дэталь лямпы — сетка, д) вынаходнік паравой машыны — англічанін Р. Трэвіцік.

**КРЫЖАВАНКА (20 студзеня). Па гарызанталях**: 3. Ганак. 6. Навала. 7. Аладка. 10. Адзінка. 11. Біла. 13. Стан. 15. Слота. 18. Туга. 19. Цура. 20. Бляха. 21. Хабар. 22. Цеча. 25. Рада. 26. Румза. 27. Ліна. 28. Абза. 29. Пагроза. 31. Клунак. 33. Звадка. 34. Верас. **Па вертыкалях**: 1. Мана. 2. Рага. 4. Газа. 5. Мара. 6. Націна. 8. Акраец. 9. Кідок. 12. Асалода. 13. Сажалка. 14. Бусел. 15. Сахор. 16. Атава. 17. Града. 23. Абібок. 24. Хмара. 25. Разора. 29. Пуня. 30. Апал. 32. Кмен. 33. Збан.

**КРЫПТАГРАМА (20 студзеня).** Ключавыя словы ў ёй: ліман, прыстаў, вежа, лік. Жартоўная народная прыказка такая: «Ані лыжкі, ані міскі, а павесіў тры калыскі».

**ГАЛАВАЛОМКА (20 студзеня)**. Прымаўка такая: «Адна ў чалавека маці, адна і ў яго радзіма».

**ШАХМАТНЫ ТУРНІР (20 студзеня).** Шахматысты размясціліся ў турнірнай табліцы ў такім парадку: электрык Пётр Іваноў з Адэсы (6 ачкоў), сталявар Андрэй Платонаў з Днепрапятроўска (5 ачкоў), урач Мікалай Храмаў з Саратава (4,5 ачка), маляр Іван Папоў з Тулы (4 ачкі), студэнт Барыс Кротаў з Краснадара (3 ачкі), повар Фёдар Бураў з Орска (2,5 ачка), геолаг Сямён Пухаў з Цюмені (2 ачкі), хімік Ігар Лявонаў з Уфы (1 ачко).

## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка зашыфраванае слушнае выказванне Бальзака, якое не шкодзіла б памятаць заўзятым курыльшчыкам.

а) 1-2-3-4-5-2-6 — вядомы французскі пісьменнік;

б) 7-8-9-10-11-12-13 — застарэлая назва брыльянта;

в) 14-15-16-17-18-19 — венгерскі шахматыст, міжнародны гросмайстар;

г) 16-20-1-21-22 — загадка ў выглядзе камбінацыі фігур, знакаў, літар.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



***НАШ АДРАС****: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*

***ТЭЛЕФОНЫ****: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71.* ***ФАКС****: 32-04-52, 68-28-77.*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 436.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12